КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 6 (277) ◂ 10 лютага ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час

ISSN 2218-2144



**НАШ ЧАЛАВЕК У КАРАКАСЕ**

Стар. 11

**ДЗЯРЖАВА ПРЫВАТНЫХ ДАМОЎЛЕНАСЦЯЎ**
Наладжванне адносін унутры кіроўных эліт на прыватнай аснове блакуе развіццё эканомікі, грамадства і дзяржавы
Стар. 4

**НАЦЫЯНАЛІЗМ ПА-ПУЦІНСКУ**
Вялікі рэзананс у расійскім палітыкуме і экспертным грамадстве выклікаў артыкул Уладзіміра Пуціна, у якім ён падзяліўся магічнай формулай, як выратаваць Расію ад развалу
Стар. 12

**ТАТЭМНЫЯ СКОКІ З ЯНКАМ КУПАЛАМ**
Стар. 15

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ВЯЛІКІ ТЭРОР**

Артыкул Ігара Кузняцова

▸ **АД РЭДАКТАРА**

# БАЙКОТ–УДЗЕЛ: НЕ ТАК І НЕ ГЭТАК

*Аляксей КАРОЛЬ*

**Чарговыя выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу ў Беларусі павінны прайсці не пазней за 25 верасня. Пачатак выбарчай кампаніі выпадае на чэрвень. Часу яшчэ быццам дастаткова, але актыўнасць бакоў, як уладнага, так і апазіцыйнага, у абмеркаванні фармату выбараў надзіва высокая.**




З чаго б гэта? Падстаў хваляваацца для ўладнай вертыкалі за свой сцэнар правядзення выбараў і іх вынікі быццам бы не прагладаецца. Схема — адпрацаваная, заканадаўчая база — падагнаная, кадры — вышкаленыя, камісіі — статысты, ЦВК — без прэтэнзій на самастойную ролю. Палітычнае поле зачышчана.

## Сітуацыя

Пасля брутальнага разгону Плошчы–2010 рэпрэсіі набылі сістэмны характар, накрылі, пакуль што кропкава, але ўсю краіну — ад сталіцы да рэгіёнаў. Маюцца вартыя даверу сведчанні пра катаванні, кепскае абыходжанне і бесчалавечныя ўмовы ўтрымання, што прымяняюцца ў дачыненні да палітычных зняволеных, у тым ліку да Андрэя Саннікава, Мікалая Аўтуховіча, Мікалая Статкевіча, Дзмітрыя Бандарэнкі і Змітра Дашкевіча. Ідзе паляванне на праваабаронцаў. За краты кінуты лідар незарэгістраванага праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі. Пад неаслабным рэпрэсіўным ціскам знаходзяцца незалежныя СМІ.

Выбары без выбараў. Ідэальна адладжаная імітацыйная мадэль. Так званая Палата прадстаўнікоў абсалютна страціла ўсе рысы парламента, самастойнай галіны ўлады. Яна нічога не вырашае. Усе яе чальцы па-сутнасці ёсць прызначэнцамі прэзідэнцкай адміністрацыі.

Умовы вядзення выбарчых кампаній на сучасны момант як ніколі жорстка абмежаваныя. На кожны пікет, кожную сустрэчу кандыдата з выбаршчыкамі, кожную ўлётку, кожны артыкул патрабуецца папярэдні дазвол ад уладных адміністрацый. І кожнага непажаданага для ўладаў кандыдата можна падвесці пад крымінальную адказнасць. У выступах па радыё і тэлебачанні, напрыклад, знайсці абразу і паклёп. Пры абыходзе кватэр «ад дзвярэй да дзвярэй» затрымаць і судзіць «за брудную лаянку». Праўравацца праз гэтыя рэпрэсіўныя кругі абароны «чужому» не дадзена. Калі звесці разам усе артыкулы на абмежаванне грамадзянскіх свабодаў, што ўтрымліваюцца зараз у Крымінальным кодэксе, атрымаем ці не паўтор знакамітага артыкула 58 сталінскіх часоў.

## Тактыка рэжыму

Усё для ўлады, здавалася б, спакойна, усё пад кантролем. Эканамічныя прэферэнцыі з Масквы далі ёй магчымасць перавесці дух і зноў паабяцаць зарплату ў 500 долараў.

Тым не менш нервовы цік раз-пораз працінае вертыкаль. Гэта праява амаль што інстынктыўнай рэакцыі, уласцівай любому таталітарнага тыпу ўлады на рост незадаволенасці сярод насельніцтва. Нават пасіўнага — на кухнях, у чэргах, на працы. Прычым, рэакцыя гэта таксама заўсёды аднолькавая — узмацненне рэпрэсій, нагнятанне ў грамадстве паралізуючага страху, ізаляцыя лідараў апазіцыі, дэмаралізацыя і разбурэнне іх структур. З пашырэннем пры неабходнасці на ўсе слаі думаючых інакш. Аж да суцэльнай масавай зачысткі. Сцэнар, які, на жаль, не выглядае неверагодным і для нас.

Інстынкт самазахавання падказвае таталітарнаму рэжыму, што момантам зрыву пасіўнага пратэсту ў актыўны можа стацца любая, нават нязначная, выпадковая нагода ці акалічнасць маэрыяльнага ці маральнага кшталту. Выбары ж, нават цалкам кантралюемыя, утрымліваюць такіх патэнцыйных пагроз найбольш. Прывід Плошчы — кашмар беларускага рэжыму.

У сённяшніх умовах уладзе як ніколі патрэбны вельмі ціхія выбары. Але з наяўнасцю дэмакратычнай мішуры. А значыць, патрэбна, каб у выбарах бралі ўдзел абазнаныя, а не псеўдаапазіцыйныя кандыдаты — на знак не толькі Захаду, але і Расіі. Таму што ідавочна ўсё ж неабходнасць мець запасны манеўр у бок Еўропы, бо і з крамлёўскіх пакоеў нешта ўзмацніўся звон пра лібералізацыю, і невядома, якім бокам павернецца Масква да Мінску пасля прэзідэнцкіх выбараў.

Аднак пры гэтым удзел апазіцыі ў выбарах беларускай вертыкалі трэба абавязкова ўтрымаць у жорсткіх рамках і лёгкачытальным кантэксце: апазіцыя слабая, расколатая, раздзіраецца ўнутранымі сваркамі, смешная і ўвагі не вартая. Яркія кандыдаты, і нават лёгкае паслабленне абцугоў для вядзення агітацыі, таяць у сабе рэальную пагрозу ўсплёску сацыяльнай актыўнасці, што і паказалі выбары прэзідэнцкія. Нясе ў сабе пагрозу і байкот як падзея нетрафарэтная, якая можа стаць крышталізатарам пратэстных настрояў і зрабіць бачным маштаб фальсіфікацый, што рыкашэтам сцебане і па міфу аб усенародна абраным.

## Праблемы апазіцыі

Так, логікай абставін, перад дэмакратычнымі сіламі як ніколі востра паўстала праблема ўдзелу ў гэтых выбарах. І канкрэтна пытанне пра іх байкот. Прычым, жарсці разгортваюцца не на жарт. Часам складваецца ўражанне, што некаторыя палітыкі і палітычныя сілы змагаюцца цяпер не з рэжымам, а з калегамі па апазіцыі, якія маюць іншыя погляды. Не чуюць адзін аднаго, не ўдумваюцца ў аргументацыю іншага боку, а адразу бяруцца за выкрыццё «ворагаў», пошук «агентаў».

Працяг на стар. 5 ▸

# ФАКТЫ, ПАДЗЕІ, ЛЮДЗІ 2

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ВІЦЕБСК. СЦЯГ У ЗНАК САЛІДАРНАСЦІ

**8 лютага каля сямі гадзін раніцы ў Віцебску на асвятляльнай вежы над чыгуначнымі пуцямі недалёка ад Полацкага кірмашу быў вывешаны нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг.**

Па тэлефоне з рэдакцыяй «Народных навін Віцебска» звязаўся актывіст Тарас Сурган і заявіў, што акцыя здзейсненая ім разам з братам Алегам у знак салідарнасці са зняволеным Сяргеем Каваленкам і ўсімі палітвязнямі Беларусі. На вежы ў святле пражэктара сцяг правісеў амаль да 8 гадзін, пасля чаго яго знялі людзі ў цывільным.

Нагадаем, што Сяргей Каваленка знаходзіцца ў СІЗА і трымае галадоўку, якая цягнецца ад 19 снежня 2011 года. Ён абвінавачваецца ва ўхіленні ад адбыцця пакарання — так званай «хатняй хіміі», — якое атрымаў за вывешванне 7 студзеня 2010 года бел-чырвона-белага сцяга на галоўнай навагодняй ёлцы Віцебска.

**Паводле сайта «Народныя навіны Віцебска»**

### БРЭСТ. АБСКАРДЖВАЕМ РАШЭННЕ СУДА

**Каардынатар Руху «За Свабоду» Дзяніс Турчаняк падаў касацыйную скаргу на рашэнне суда Ленінскага раёна Брэста, які адмовіў у задавальненні скаргі Дзяніса на незаконныя дзеянні намесніка старшыні гарвыканкама.**

Рашэнне Дзяніс Турчаняк лічыць незаконным і неабгрунтаваным, паколькі суд паказаў, што гарвыканкам дзейнічаў у адпаведнасці з заканадаўствам, адмовіўшыся выдаваць копіі прынятых ім рашэнняў, не ўлічваючы пры гэтым, закранаюцца ці не правы і інтарэсы іншых асоб. Суд таксама не прыняў пад увагу, што намеснікам старшыні Брэсцкага гарвыканкама Вячаславам Хафізавым парушана права Турчаняка ўдзельнічаць у ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь. Менавіта для гэтай мэты ён і запытваў копіі рашэнняў гарвыканкама.

«Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь прама замацавана маё права на атрыманне інфармацыі, доступ да якой не забаронены альбо не абмежаваны ва ўстаноўленым законам парадку, маё права і абавязак па ахове гісторыка-культурнай спадчыны. У заканадаўстве адсутнічаюць нормы, якія ўстанаўліваюць забарону на атрыманне інфармацыі, якая змяшчаецца ў рашэннях мясцовых органаў улады, а таксама рэжым сакрэтнасці або абмежаванні доступу да дадзенай інфармацыі», — кажа Дзяніс Турчаняк.

«Не вывучыўшы рашэнне гарвыканкама ў дачыненні да аб'екта гісторыка-культурнай спадчыны, я не магу ведаць, ці парушаныя мае правы, гарантаваныя Канстытуцыяй на гісторыка-культурную спадчыну. Адмова ў прадстаўленні звестак аб дзейнасці дзяржаўнага органа з'яўляецца парушэннем прынцыпу народаўладдзя, паколькі ўся кампетэнцыя дзяржаўнага органа яму дэлегавана народам, гэта значыць мною ў тым ліку, і я як грамадзянін маю права ажыццяўляць кантроль за дзейнасцю дзяржоргана», — адзначае Дзяніс Турчаняк.

**Паводле прэс-службы Руху «За Свабоду»**

## СМІ

# ПРЫСУД ПАКІНУЛІ Ў СІЛЕ

**Мінскі гарадскі суд не задаволіў касацыйную скаргу пазаштатнага карэспандэнта газеты «Новы Час» Мікіты Броўкі.**

Мікіта абскарджваў рашэнне суда Партызанскага раёна Мінска, згодна з якім быў пакараны 10 суткамі адміністрацыйнага арышту.

Паказанні сведкі-міліцыянта, на якіх будавалася ўсё абвінавачванне, маглі абвергнуць трое сведак, а таксама адпаведныя матэрыялы аператыўнай і журналісцкай здымкі, што і было пазначана ў касацыйнай скарзе. Нягледзячы на гэта, суддзя палічыў пастанову суда Партызанскага раёна законнай і касацыйную скаргу не задаволіў.

Нагадаем, увечары 19 снежня 2011 года Мікіта Броўка быў жорстка затрыманы людзьмі ў цывільным каля Чырвонага касцёла, дзе ён асвятляў мірную акцыю салідарнасці з палітвязнямі, прымеркаваную да гадавіны Плошчы.

## ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# САННІКАЎ АДМОВІЎСЯ

*Генадзь КЕСНЕР*

**8 лютага ў віцебскай калоніі №3 адбылася сустрэча экс-кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Андрэя Саннікава, які зараз адбывае там пакаранне, з ягоным адвакатам.**



Па словах Ірыны Халіп, Андрэй Саннікаў падчас сустрэчы са сваім абаронцам не змог шмат распавесці пра ўмовы, у якіх ён цяпер знаходзіцца. «Яшчэ раней, перад мінулай сустрэчай, мой муж і яго адвакат атрымалі інструкцыі, пра што ім можна размаўляць, а пра што нельга. Дык вось, пра ўмовы ўтрымання ў калоніі гутарыць забараняецца, можна толькі абмяркоўваць рэчы, звязаныя з крымінальнай справай Андрэя, — адзначыла Ірына Халіп у каментары «НЧ». — У калонію да Андрэя прыязджалі пракурор Віцебскай вобласці Аляксандр Чадзюк, а таксама начальнік аддзела Генеральнай пракуратуры па нагляду за законнасцю выканання крымінальных пакаранняў Юры Гарошка, але Андрэй адмовіўся з імі размаўляць».

Ірына Халіп выказала меркаванне, што, магчыма, візіт Чадзюка і Гарошкі ў калонію звязаны з ранейшымі скаргамі адвакатаў палітвязня. Не выключана, што «пракурорскія» хацелі паглядзець, у якіх умовах утрымліваецца кандыдат на вышэйшую пасаду ў Беларусі на прэзідэнцкіх выбарах 2010 года, а таксама праверыць інфармацыю наконт катаванняў у дачыненні да зняволенага і абставінаў, пры якіх ён напісаў прашэнне аб памілаванні на імя дзеючага кіраўніка дзяржавы.

Нагадаем, што інфармацыю пра тое, што Андрэй Саннікаў у выніку катаванняў падаў хадайніцтва аб памілаванні, 25 студзеня на прэс-канферэнцыі падала Ірына Халіп. Паводле яе слоў, прашэнне было напісана яшчэ 20 лістапада, але прадстаўнікі МУС заявілі, што гэты дакумент з'явіўся толькі 23 снежня. Журналісты і эксперты звярнулі ўвагу на тую акалічнасць, што менавіта 23 снежня адбывалася прэс-канферэнцыя Аляксандра Лукашэнкі, дзе ён заяўляў, што можа памілаваць чалавека ў тым выпадку, калі той напіша прашэнне на імя прэзідэнта. Але, па словах Лукашэнкі, палітвязні ніякіх прашэнняў аб памілаванні не падавалі.

Зараз жа ў МУС кажуць, што адміністрацыя віцебскай калоніі перадала прашэнне Саннікава ў аддзел па пытаннях грамадзянства і памілавання Адміністрацыі прэзідэнта. Калі хадайніцтва палітвязня будзе разгледжана, пакуль не вядома.

## ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# ЛІСТ З-ЗА КРАТАЎ

*Аляксей КАРОЛЬ*

**Днямі я атрымаў ліст ад палітычнага вязня, экс-кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча. Доўгі час ад Мікалая не было ніякіх звестак.**

Ліст, датаваны 29 студзеня, да мяне дайшоў 3 лютага. Надзіва хутка. Факт, які можна зразумець так: інфармацыйная блакада знятая. А вось ці надоўга?

«Даруй, што так позна адказваю, — піша Мікалай, — але з 10 снежня паўтара месяца кідалі па розных ШІЗО і ПКТ, а там то пісаць нельга, то канвертаў не было. Зараз я ў Магілёўскай турме... Мне грэе душу твая ўпэўненасць, што вызваленне блізкае, але пакуль што сітуацыя развіваецца ў іншым накірунку. Ціск, які пачаўся яшчэ 5 жніўня і паціху павялічваўся, у канцы лістапада — пачатку снежня рэзка ўзмацніўся. Праўда, нядаўна даведаўся пра сітуацыю ў Андрэя, і зразумеў, у чым справа».

Мікалай з вялікай цеплынёй і ўдзячнасцю ўзгадвае сваіх родных за іх падтрымку і барацьбу за яго вызваленне. «Мы з Валянцінай, — піша ён, — можам ганарыцца нашымі дзецьмі. І як бацьку, мне сапраўды вельмі прыемна, калі дзеці так змагаюцца за маю свабоду. Што тычыцца Марыны, то ў яе ёсць такая абсалютна не жаночая якасць, як шляхетнасць». Мікалай адзначае, што да апошняга не верыў, што ім дадуць распісацца. З лёгкай іроніяй праводзіць паралель: «Мабыць, узялі прыклад з Напалеона, які ажаніў сваіх генералаў, каб не рабілі змоў супраць яго».



І вяртаецца да жорсткай рэчаіснасці: «Сапраўды, тут ёсць рацыя — адказнасць за сям'ю, за блізкіх міжволі прымушае быць абачлівей. Але ў маім выпадку мае блізкія, жонка і дзеці разумеюць матывы маіх учынкаў і падтрымліваюць мяне. Мне бывае вельмі шкада і бацьку, і Марыну, але я заўсёды памятаю, што ў людзей на Плошчы таксама былі блізкія. Таму я ўяўляю тут розныя варыянты падзей, у тым ліку і самыя крайнія. Не ўяўляю толькі аднаго — здрады гэтым людзям».

Нагадаем, 12 студзеня прайшло судовае пасяджэнне па справе Мікалая Статкевіча. Па рашэнні суда, палітвязня асудзілі на тры гады крытай турмы ўзмоцненага рэжыму. Ініцыятыва зыходзіла ад адміністрацыі Шклоўскай калоніі, дзе да гэтага ўтрымліваўся Статкевіч. Суд палічыў, што Статкевіч не стаў на шлях выпраўлення і не пакаяўся.

Палітык асуджаны пасля акцыі пратэсту 19 снежня 2010 года, калі шматлікія беларусы выйшлі выказаць пратэст супраць фальсіфікацыі вынікаў выбараў. Тады яго асудзілі на шэсць гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

## ВЫБАРЫ

# ЯШЧЭ АДНА СТРАТЭГІЯ

*Вольга ХВОІН*

**АГП абвясціла пра ўласную стратэгію на парламенцкіх выбарах. Партыя заклікае іншыя зарэгістраваныя партыі далучацца. Пяць суб'ектаў з «кааліцыі шасці» пагадзілася, прынамсі на словах.**

Сутнасць стратэгіі — АГП не мае намеру ўдзельнічаць непасрэдна ў выбарах у Палату прадстаўнікоў, але возьме ўдзел у выбарчай кампаніі, вылучыўшы ад партыі патэнцыйных кандыдатаў. Карыстацца бюджэтам, які выдзяляе дзяржава, кандыдатам нельга. Яны мусяць сфармаваць уласныя фонды і ўжо за кошт гэтых сродкаў весці кампанію. «Усе ўдзельнікі гэтай кампаніі мусяць быць сябрамі зарэгістраваных палітычных партый. Гэта азначае: некалькі юрыдычна афармленых рашэнняў на рэгістрацыю і столькі ж рашэнняў на зняцце. Ніякіх апартуністаў! Абсалютна прагназуемы, кантралюемы вынік!» — падкрэслівае Анатоль Лябедзька. Калі кандыдатаў вылучае партыя, а не грамадзяне шляхам збору подпісаў, то і адклікаць кандыдата таксама партыя.

Кандыдаты павінны ісці ў народ з трыма тэзамі: галоўная праблема Беларусі — гэта Аляксандр Лукашэнка; выбараў няма, таму ўсе здымаюць свае кандыдатуры да пачатку датэрміновага галасавання; выбарцам не варта ісці на выбары ці галасаваць супраць усіх. Па словах Анатоля Лябедзькі, гэта дазволіць дэлегітымізаваць рэжым Лукашэнкі як унутры краіны, так і за яе межамі. Прапанаваная схема дазволіць правесці эфектыўную інфармацыйную кампанію, скарыстацца магчымасцямі, што дае заканадаўства, але разам з тым пракантраляваць, каб усе патэнцыйныя кандыдаты прытрымліваліся адзінай стратэгіі.

Гэтая стратэгія была прапанавана «кааліцыі шасці». «Я буду арыентавацца на выніку дакументаў, якія фіксуюць абавязкі і адказнасці лідараў структур, ніхто з іх не сказаў «не». Усе прапанаваныя намі пункты яшчэ будуць абмяркоўвацца — мы дамовіліся, што мусіць быць адзіная кампанія, пасыл у ёй і інструмент кантролю адзіныя. Пачакаем тыдзень-другі — над гэтым мусіць папрацаваць экспертная група, і потым агучым рашэнне для прэсы», — распавёў Анатоль Лябедзька.

За выключэннем Сяргея Калякіна (левая партыя «Справядлівы свет», на сустрэчы не прысутнічаў — рэд.) усе прадстаўнікі «кааліцыі шасці» (АГП, Партыя БНФ, аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», Рух «За Свабоду» і грамадзянская кампанія «Гавары праўду!») пагадзіліся з прапанаванай стратэгіяй.

Не так даўно «шасцёрка» ужо збіралася падпісаць дэкларацыю «Аб грамадскай дыскусіі аб мэтах і формах удзелу беларускай апазіцыі ў выбарах 2012 года».

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ЗАРОБАК ПАДВЫШАЦЬ НЕ БУДУЦЬ

Сяргей САЛАЎЁЎ




**Рост цэнаў ужо даўно апярэдзіў рост заробкаў. Але наша сацыяльна арыентаваная дзяржава, здаецца, забылася на свае сацыяльныя функцыі.**

У 2012 годзе рост заработнай платы запланаваны на ўзроўні крыху больш за 4%, паведаміў намеснік міністра эканомікі Аляксандр Ярашэнка на прэс-канферэнцыі ў Мінску 8 лютага.

Намеснік міністра падкрэсліў, што рэальная заработная плата павінна «расці ў меру ці крыху ніжэй чым тэмпы росту прадукцыйнасці працы». Рост прадукцыйнасці працы ў 2012 годзе прагназуецца на ўзроўні 5,7%, удакладніў Ярашэнка.

Ён нагадаў, што ў пачатку 2011 года разрыў паміж тэмпамі росту заработнай платы і тэмпамі росту прадукцыйнасці працы складаў 20% на карысць зарплаты, а ў канцы года сітуацыя змянілася. «Пакуль рост зарплаты адстае ад росту прадукцыйнасці працы. І гэтую тэндэнцыю мы маем намер захаваць, каб не разганяць інфляцыйныя працэсы», — патлумачыў Ярашэнка.

Намеснік міністра адзначыў, што па выніках 2011 года інфляцыя склала 108,7%, а на гэты год яна прагназуецца на ўзроўні 19–22%. «І мы арыентуемся на тое, што гэты паказчык павінен быць абавязкова вытрыманы», — падкрэсліў ён.

Цяпер, паводле слоў Ярашэнкі, урад сумесна з Нацбанкам распрацоўвае пакет мер, які павінен забяспечваць выкананне прагнозных паказчыкаў. У гэтым пакеце ўтрымліваюцца і антыінфляцыйныя меры.

Знізіць тэмпы інфляцыі ў 5–6 разоў за год — гэта, здаецца, з савецкага анекдоту. «Ці можа слон атрымаць грыжу? — Можа, калі прымусіць яго падымаць сельскую гаспадарку». Пакуль што высадка марсіянскіх зялёных чалавечкаў здаецца мне больш верагодным выратаваннем беларускай эканомікі, чым усе планы ўрада і Нацбанку.

Варта ўлічыць і тое, што, нягледзячы на агульны рост золатавалютных рэзерваў Беларусі, актывы ў замежнай валюце ў іх складзе знізіліся за студзень амаль на 715 мільёнаў долараў ЗША, або на 16%. Аб'ём золатавалютных рэзерваў Беларусі ў вызначэнні МВФ на 1 лютага 2012 года склаў 7 мільярдаў 968,2 мільёна долараў, павялічыўшыся з пачатку года на 52,3 мільёна долараў.

У той жа час, як сведчаць даныя Нацбанку, рэзервовыя актывы ў замежнай валюце ў складзе ЗВР знізіліся за студзень на 714,6 мільёна долараў, ці 15,9%, і на 1 лютага склалі 3 мільярда 774,1 мільёна долараў. На 1 студзеня гэты паказчык быў 4 мільярда 488,7 мільёна долараў.

З улікам пагашэння Беларуссю ўнутраных і знешніх абавязацельстваў у замежнай валюце і прыцягнення прамых замежных інвестыцый у эканоміку краіны (3,7 мільярда долараў на чыстай аснове), міжнародныя рэзервовыя актывы на канец 2012 года складуць 6,1–7 мільярдаў долараў. Такім чынам, на канец 2012 года аб'ём ЗВР прагназаваўся меншым у параўнанні з наяўным узроўнем.

Гэта азначае, што ў Нацбанка няма «падушкі бяспекі». Тым больш, што «прыцягненне замежных інвестыцый» — пад вялікім пытаннем. Інвестыцыі мы можам атрымаць толькі ў выпадку зацікаўленасці замежных партнёраў у беларускіх праектах. А такой зацікаўленасці няма.

Нельга сказаць, што беларускія ўлады такую зацікаўленасць не шукаюць. Міністэрства эканомікі будзе «больш агрэсіўна, мэтанакіравана працаваць з дзяржорганамі» над павышэннем інвестыцыйнага рэйтынгу Беларусі, заявіў кіраўнік гэтага ведамства Мікалай Снапкоў 7 лютага на пасяджэнні Савета міністраў. Гэта, паводле слоў Снапкова, неабходна «для дасягнення ў кароткатэрміновым перыядзе не менш як 30-га месца ў рэйтынгу «Doing Byisness».

Як мяркуе міністр, увагу варта сканцэнтраваць на выраўноўванні і стварэнні больш прыцягальнага асяроддзя для працы бізнесу на тэрыторыі Беларусі.

Кіраўнік Мінэканомікі зазначыў, што Расія і Казахстан, партнёры Беларусі па Адзінай эканамічнай прасторы (АЭП), актыўна адкрываюць свае прадпрыемствы для ўваходжання ў транснацыянальныя карпарацыі. «Намер "Даймлер" набыць 27% акцый КамАЗа ў сувязі з гэтым выклікае сумненне далейшага зліцця з МАЗам», — цытуе Снапкова агенцтва БелТА.

Вось ужо «мінус» інвестыцыям. «Нашы калегі па АЭП апярэджваюць нас па інстытуцыянальным пераўтварэнні, гэта павінна прымусіць нас задумацца і паскорыць сваю працу з міжнароднымі інвестарамі. Чаму мы першыя фарміруем ідэі, але не першыя іх увасабляем?» — канстатуе кіраўнік Мінэканомікі.

Прадпрыемствы абароннага сектара эканомікі прадставяць Беларусь на міжнароднай выставе-канферэнцыі па абароне і бяспецы Defense & Security ў Бангкоку 5–8 сакавіка. Пра гэта паведамілі ў Дзяржаўным ваенна-прамысловым камітэце.

Азіяцкая выстава-канферэнцыя па абароне і міжнароднай бяспецы ў Азіі — на сушы, на моры і ў паветры — пройдзе пад патранажам урада і Міністэрства абароны Тайланда. Гэта адна з самых буйных і вядомых выстаў тэхналогій бяспекі, абароны, абароннай тэхнікі і ўзбраенняў у Тайландзе.

Асноўная тэматыка выставы — узбраенне і ваенная тэхніка для сухапутных войскаў, ваенна-марскога флоту і ваенна-паветраных сіл. На выставе будуць прадстаўленыя найноўшыя тэхналогіі і абсталяванне ў галіне ваеннай бяспекі, сістэмы кантролю і абмежавання доступу, сістэмы і сродкі для жыццезабеспячэння і дзейнасці ў надзвычайных сітуацыях, сродкі пажаратушэння, сродкі экстраннай эвакуацыі, найноўшыя распрацоўкі ў галіне барацьбы з тэрарызмам і шмат іншага.

Што-што, а зброяй Беларусь заўсёды гандляваць умела. Можа, гэта будзе той «чароўнай палачкай», якая здолее хоць нейкім чынам выцягнуць беларускую эканоміку? Альбо хоць крыху палепшыць яе стан?

Пра тое, што Беларусь жыве не па сродках, ужо кажа і Лукашэнка. Сёлета «ўсё павінны забыць, што на крэдытаванне могуць выкарыстоўвацца эмісійныя грошы», заявіў Аляксандр Лукашэнка 6 лютага, прымаючы з дакладам старшыню праўлення Нацыянальнага банка Надзею Ермакову. Паводле слоў Лукашэнкі, павінны выкарыстоўвацца толькі тыя фінансавыя сродкі, якія будуць зароблены ў эканоміцы ў цэлым.

«Вельмі дарагія крэдытныя рэсурсы. Эканоміка, зразумела, цярпець такую сітуацыю з крэдытамі доўга не можа, — сказаў Лукашэнка. — Таму стаўка рэфінансавання Нацыянальнага банка паволі павінна зніжацца. Мы павінны даваць і сігналы нармальныя эканоміцы нашай краіны, суб'ектам гаспадарання, дый фактычна стаўка павінна быць ніжэйшай, таму што пры цяперашняй гаварыць пра нейкае інтэнсіўнае развіццё эканомікі нельга».

Ці прыслухаецца Нацбанк да Лукашэнкі?

> Што-што, а зброяй Беларусь заўсёды гандляваць умела. Можа, гэта будзе той «чароўнай палачкай», якая здолее хоць нейкім чынам выцягнуць беларускую эканоміку?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## СЯРГЕЙ ВІТУШКА



Казкі беларускага пісьменніка Сяргея Вітушкі ў рамках гукавога праекта «Дзінь-дзілінь: пара гуляць у казкі» чытаюць вядомыя людзі — дыпламаты, пісьменнікі, музыкі. «Дзінь-дзілінь: пара гуляць у казкі» — сумесны праект радыё «Рацыя» і партала Tuzin.FM.

Сяргей Вітушка — пісьменнік, гісторык, акцёр, журналіст, адзін з лідараў нефармальнага моладзевага руху ў 1980-х гадах. Узначальваў супольнасць «Талака», якая займалася аховай помнікаў гісторыі і архітэктуры, адраджэннем народных святаў, праводзіла экалагічныя акцыі і культурныя мерапрыемствы, змагалася за стварэнне беларускіх класаў і школ. З 1991 года жыве ў Вільні (Літва), прымаў удзел у стварэнні беларускай гімназіі, дзе працаваў настаўнікам. Працаваў таксама на віленскім тэлебачанні і на радыё «Балтыйскія хвалі». Вымушаны быў спыніць актыўную дзейнасць з-за праблем са здароўем. У 2011 годзе была выдадзена кніга казачных твораў яго аўтарства «Дзінь-дзілінь: пара гуляць у казкі», якую аформіў Міхал Анемпадыстаў.

«Мы хацелі б прысвяціць гэты праект усім тым, хто верыць у лепшае. І ўзрост тут не мае значэння, бо добрую развязку хочуць убачыць як дзеці, так і іх бацькі, — сказаў каардынатар праекта, рэдактар партала Tuzin.FM Сяргей Будкін. Гэтыя казкі, як і само жыццё іх аўтара Сяргея Вітушкі, вучаць нас перш за ўсё не скарацца абставінам і верыць, што свет усё ж зменіцца да лепшага».

Ідэя праекта належыць гісторыку Сяргею Харэўскаму — ён вырашыў зрабіць аўдыёпрацяг выдадзенай кнігі.

## ВІТАЛЬ КУЛІК



Першы намеснік міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі Віталь Кулік накіраваў ліст у Міністэрства навакольнага асяроддзя Літвы з прапановай правесці кансультацыі па праекце двухбаковага пагаднення аб захаванні Канвенцыі аб ацэнцы ўздзеяння на навакольнае асяроддзе ў трансгранічным кантэксце (Канвенцыя Эспо). Такім чынам, Мінпрыроды Беларусі запрасіла літоўскіх калегаў абмеркаваць пытанні, звязаныя з будаўніцтвам атамных станцый на тэрыторыі дзвюх краін.

Беларускі бок прапануе правесці пасляпраектны аналіз беларускай АЭС у адпаведнасці з артыкулам 7 Канвенцыі Эспо, а таксама кансультацыі па наяўных у літоўскага боку пытаннях у сувязі з прыняццем рашэння аб зацвярджэнні абгрунтавання інвестыцый у будаўніцтва беларускай АЭС.

Спецыялісты Мінпрыроды прапануюць таксама абмеркаваць вынікі праведзеных Літвой у 2010 годзе інжынерна-геалагічных і геатэхнічных даследаванняў Вісагінскай пляцоўкі і тып рэактарнай устаноўкі, што абраны для будаўніцтва Вісагінскай АЭС.

Мінпрыроды прапануе літоўскім калегам правесці кансультацыі ў лютым або пачатку сакавіка ў Мінску.

Беларускі бок раней заяўляў аб невыкананні Літвой палажэнняў Канвенцыі Эспо пры размяшчэнні Вісагінскай АЭС аб ацэнцы ўздзеяння на навакольнае асяроддзе. Партнёрамі па будаўніцтву літоўскай атамнай станцыі будуць японцы. Тэхналогія, абраная для Вісагінскай АЭС, — аднаконтурны кіпячы рэактар, прататып якога выкарыстоўваўся на АЭС «Фукусіма».

У сваю чаргу, Літва не згодная з намерамі беларусаў пабудаваць Астравецкую АЭС паблізу літоўскай мяжы і ў небяспечнай блізкасці ад сталіцы дзяржавы — Вільнюса.

## ДАР'Я ДОМРАЧАВА



Дар'я Домрачава заняла другое месца ў гонцы з масавым стартам на этапе Кубка свету па біятлоне ў Халменколене.

Дыстанцыю 12,5 кіламетра спартсменка пераадолела за 38 хвілін 27,8 секунды з чатырма промахамі на агнявых рубяжах. Ад пераможцы, немкі Андрэа Хенкель, яна адстала на 26,6 секунды. Трэцяй да фінішу праз 0,6 секунды пасля Домрачавай прыйшла Тэя Грэгорын са Славеніі (страляла без промахаў).

У агульным заліку Кубка свету наперадзе Нойнер (816 балаў), Домрачава (795) і нарвежка Тора Бергер (681).

Домрачава заняла прызавыя месцы ва ўсіх дысцыплінах (2 лютага — другое ў спрынцы, 4-га — трэцяе ў гонцы пераследу).

Этап завяршаецца мужчынскім мас-стартам, у якім беларускія біятланісты не ўдзельнічаюць. Восьмы этап Кубка свету пройдзе ў фінскім Кантыялахці 10–12 лютага.

▸ **АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ**

# ДЗЯРЖАВА ПРЫВАТНЫХ ДАМОЎЛЕНАСЦЯЎ

Сяргей НІКАЛЮК

**Наладжванне адносін унутры кіроўных эліт на прыватнай аснове блакуе развіццё эканомікі, грамадства і дзяржавы.**




19 студзеня міністр юстыцыі Алег Сліжэўскі заявіў пра адмову ў рэгістрацыі партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» (БХД). Калі мне памяць не здраджвае — гэта ўжо чацвёртая адмова. Ёсць усе падставы сцвярджаць, што і не апошняя. Сталасць — паказчык класа, дык паспрабуем вылучыць з класа міністра максімальную колькасць азбукавых паліталагічных ісцін.

Здавалася б, якая справа абываецелю да чарговай адмовы ў рэгістрацыі БХД? Ну, будзе адной партыяй больш, і што? Зарплаты і пенсіі ў Беларусі ад гэтага не павялічацца. Ад адной — напэўна. Але што будзе, калі дадасца не адна і не дзве, а дзясяткі тысяч некамерцыйных арганізацый: ад рэлігійных да палітычных, ад тых, што гуртуюць аматараў акварыумных рыбак, да аб'яднанняў верхаводаў бізнэсу?

Адказ на гэта пытанне можна знайсці ў інтэрнэце. У 2006 годзе ў свеце налічвалася 28 краін з прыбыткам на душу насельніцтва, які перавышае 20 тысяч доляраў. На кожны мільён жыхароў у гэтых краінах прыходзілася 63,6 арганізацыі бізнэсу. У краінах з прыбыткам ад 0,3 да 2 тысяч доляраў адпаведны паказчык апынуўся ў 23 разы ніжэйшым!

За каментарам звернемся да футуролага Фрэнсіса Фукуямы: «Здаровая капіталістычная эканоміка — гэта эканоміка, у рамках якой грамадства мае колькасць сацыяльнага капіталу, дастатковую для таго, каб дазволіць самаарганізацыю бізнэсу, карпарацый, сеткавых структур і інш.»

Эканамічная дзейнасць — гэта, найперш, людзі, якія ўзаемадзейнічаюць паміж сабой. Сацыяльны капітал характарызуе здольнасць грамадства да самаарганізацыі і сумесных дзеянняў. Яго ўнёсак у эканамічны рост, як паказваюць сучасныя даследаванні, вышэй унёску фізічнага капіталу. Таму колькі інвестыцый ні прыцягвай у краіну з нізкім узроўнем сацыяльнага капіталу, жаданай аддачы не атрымаеш.

Але вернемся да статыстыкі. У 1997 годзе (больш свежымі дадзенымі я не валодаю) у ЗША на 160 жыхароў прыходзілася адна некамерцыйная арганізацыя і адна бізнэс-арганізацыя на 13 чалавек (17 мільёнаў індывідуальных прадпрымальнікаў, 4,7 мільёна карпарацый і 1,7 мільёна партнёрстваў). Ці варта пасля гэтага дзівіцца, што ЗША па аб'ёме ВУП з'яўляюцца сусветным лідарам!

## Выдатнае адкрыццё

Той, хто мяркуе, што з праблемамі рэгістрацыі палітычных партый сутыкаюцца ў нас выключна апазіцыянеры, — памыляецца. Возьмем гаротнікаў з «Белай Русі». Ужо які год яны вуснамі сваіх кіраўнікоў заяўляюць пра гатоўнасць ператварыцца ў партыю. Заяўляць вось заяўляюць, а перавесці сваю гатоўнасць у практычную плоскасць у іх ніяк не атрымліваецца. Прычыну фіяска нядаўна раскрыў старшыня Савета Федэрацыі Анатоль Рубінаў у інтэрв'ю каналу «РТР-Беларусь»: «Вось тое, што сказаў прэзідэнт. І ён, я лічу, абсалютна мае рацыю. Ён сказаў: «Мне партыя не патрэбна як прэзідэнту. Я не хачу».

Выдатнае адкрыццё. Запомнім яго і рушым далей. У трыццатцы самых багатых краін толькі чатыры не з'яўляюцца дэмакратычнымі: Бруней, Катар, Кувейт і ААЭ. Няцяжка здагадацца, што багацце чацвёркі заснавана на нафце і… малой колькасці насельніцтва (інакш на ўсіх не хопіць, колькі нафты не пампуй).

Якое галоўнае адрозненне астатніх 26 дзяржаў? Для пошуку правільнага адказу нам давядзецца ўвесці новы тып класіфікацыі, падзяліўшы ўсе краіны на *дзяржавы закрытага доступу* (ДЗД) і *дзяржавы адкрытага доступу* (ДАД).

У першым тыпе дзяржаў сацыяльныя ліфты максімальна заблакаваныя, што дазваляе элітам здабываць рэнту са свайго манапольнага становішча. «Стварэнне рэнты праз абмежаваны доступ, — піша нобелеўскі лаўрэат Дуглас Норд, — служыць тым «клеем», што ўтрымлівае кааліцыі разам». Кааліцыі эліт — гэта своеасаблівыя «гурткі па інтарэсах», і таму любую дзяржаву можна разглядаць у якасці кааліцыі кааліцый. Гэту думку даволі вобразна выказаў нядаўна эканаміст Міхаіл Хазін: «Мой тата мне яшчэ ў дзяцінстве казаў фразу, сэнс якой я тады не разумеў: «Да ўлады рвуцца бандай!» А «банду» (дакладней, свой клан, групу ўплыву) трэба карміць, інакш яна ў крытычны момант можа прадаць і перайсці да іншага палітыка. Вялікая частка адваяваных у палітычных баталіях рэсурсаў ідзе менавіта на падтрыманне, кармленне і пашырэнне сваёй банды, а не на спажыванне самога палітыка».

## 153-е месца з 179

Кааліцыі (арганізацыі) бываюць двух тыпаў. Удзельнікі *партнёрскіх* кааліцый дамаўляюцца паміж сабой без умяшання трэцяга боку, таму кааперацыя ў такіх кааліцыях патрабуе высокага ўзроўню супадзення інтарэсаў. *У кантрактных* кааліцыях узгадненне інтарэсаў можа адбывацца за кошт знешняга прымусу, напрыклад, суду.

Паколькі пануючыя кааліцыі ў любой ДЗД з'яўляюцца партнёрскімі, мір сярод эліт ёсць функцыяй балансу інтарэсаў, якія ўзнікаюць падчас дзяльбы рэнты. Гаворку пры гэтым варта весці пра падвойны баланс: палітычныя інтарэсы чальцоў кааліцыі павінны ўраўнаважвацца эканамічнымі інтарэсамі. Валоданне ўладай унутры кааліцыі — гэта найважнейшы элемент эканамічнага поспеху, а размеркаванне эканамічных прывілеяў служыць ключом да стварэння стымулаў для стабільных адносін унутры кааліцыі.

Адносіны ўнутры кааліцый у ДЗД выбудоўваюцца па тыпу патрон–кліент, г.зн. на прыватнай аснове. Растлумачу на прыкладзе. Пуцін кіруе Расіяй па тэхналогіі, адпрацаванай яшчэ ў часы Кіеўскай Русі. Ён размяркоўвае эканамічныя прывілеі, галоўным з якіх з'яўляецца доступ да «трубы». У часы яго цёзкі князя Уладзіміра Чырвонага Сонейка ролю «трубы» адыгрываў шлях з вараг у грэкі. Кіеў на гэтым шляху з'яўляўся своеасаблівай засаўкай, таму кіеўскі княжацкі пасад і быў галоўным у дзяржаве, чыя эліта свае асноўныя прыбыткі атрымлівала ў выглядзе транзітнай рэнты.

Прыгледзімся да галоўных бенефіцыяраў ДЗД з ганарлівым імем Расія. Гэта былыя калегі Пуціна па КДБ, піцерскай мэрыі і чальцы кааператыва «Возера», у якім у свой час быў і Пуцін. Арганізаваць землеадвод для кааператыва дапамог кіраўнік Прыазёрскага раёна Віктар Зубкоў, які пасля дарос да пасады старшыні ўраду.

Але вернемся да Дугласа Норта: «Абмяжоўваючы доступ да прывілеяў толькі чальцамі пануючай кааліцыі, эліты ствараюць надзейныя стымулы супрацоўнічаць, а не змагацца адзін з адным… Такая палітычная сістэма маніпулюе эканамічнай сістэмай для стварэння рэнты, якая затым забяспечвае палітычны парадак». Галоўная пагроза для ДЗД — кааліцыі (арганізацыі), якія ўзнікаюць па-за пануючымі кааліцыямі (арганізацыямі). У гэтым сэнсе дзеянні міністра юстыцыі варта прызнаць рацыянальнымі. Яны цалкам укладваюцца ў логіку закрытага доступу. Прамым следствам гэтай логікі з'яўляецца 53-е месца Беларусі сярод 179 краін свету ў рэйтынгу эканамічных свабодаў па падліках Heritage Foundation. Тройку ж лідараў узначальваюць Ганконг, Сінгапур і Новая Зеландыя. Усе яны па нашай класіфікацыі належаць да ДАД.

## Забарона на «стваральнае разбурэнне»

Ідэалогію закрытага доступу ёміста перадае слоган савецкай гандляркі: «Вас шмат, а я адна». Яна — маленькі шрубок сістэмы — тым не менш здабывала сваю частку рэнты з права распараджацца дэфіцытам, размяркоўваючы яго сярод сваіх па ланцужках асабістых сувязяў (блату). Такім чынам, адносіны патрон–кліент, якія дамінуюць у элітах, узнаўляліся на стыку паміж элітамі (уладай) і грамадствам.

У гады перабудовы ва ўмовах распаду наладжаных ланцужкоў асабістых сувязяў запатрабаванне ў іх адчувалася асабліва востра, што і зафіксавалі апытанні НІСЭПД. У снежні 1993 года пры адказе на пытанне «Што часцей за ўсё вядзе да багацця?» у лідарах апынуліся адказы: «асабістыя сувязі» — 72% і «несумленнасць» — 56%. Ва ўмовах палітычнай і эканамічнай стабілізацыі (студзень 2007 года) на першае месца выйшла «праца» — 68%, але «асабістыя сувязі» захавалі за сабой другое месца — 43%.

Імкненне эліт здабываць рэнту са свайго становішча варта прызнаць універсальным. У гэтым сэнсе ДЗД практычна не адрозніваюцца ад ДАД. Водападзел паміж імі праходзіць па лініі асабістых/безасабовых дамоўленасцяў. У ДАД любому грамадзяніну для стварэння арганізацыі (палітычнай, эканамічнай і да т.п.) не патрабуецца пытаць дазволу чыноўніка адпаведнага ўзроўню. Права кожнага на стварэнне арганізацыі гарантуецца безасабовым законам. Безаблічнасць азначае аднолькавае стаўленне да ўсіх. Безаблічнасць з'яўляецца галоўным гарантам роўнасці.

Толькі ў такіх умовах магчымая рэальная канкурэнцыя ў палітыцы і эканоміцы. Канкурэнцыя і абмяжоўвае апетыты эліт у ДАД, яна ж стварае ўмовы для ўстойлівага эканамічнага росту за кошт «стваральнага разбурэння», які, паводле Іосіфа Шумпетэра, «бесперапынна рэвалюцыянізуе эканамічную структуру знутры, руйнуючы старую структуру і ствараючы новую». Эліты ж ДЗД нyздольныя падтрымліваць «стваральнае разбурэнне», таму што стварэнне новых арганізацый пагражае інтарэсам тых, хто абкапаўся вакол ужо існых.

Захаванне сельскагаспадарчай вытворчасці на базе толькі фармальна рэарганізаваных калгасаў — адзін з прыкладаў блакавання механізму «стваральнага разбурэння». Пад такое блакаванне ў Беларусі распрацавана і адпаведная ідэалогія, сутнасць якой выяўляе лозунг: «Мы не далі разрабаваць агульнанародную ўласнасць». Калгасную частку агульнанароднай уласнасці сапраўды атрымалася захаваць, але якім коштам? Прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч абвясціў яе 30 студзеня: «Назапашана сістэмных абавязанняў, па дадзеных на 1 студзеня, на 60 трыльёнаў рублёў, у тым ліку пратэрмінаваных — каля 4,5 трыльёна. Нават калі чаканая выручка ў 2012 годзе складзе каля 47–47,5 трыльёна рублёў, трэба паўтара гады працаваць, нічога пры гэтым не набываючы і не выдаткоўваючы».

* * *

Праблема апазіцыянераў, якія з зайздроснай зацятасцю спрабуюць зарэгістраваць БХД, і праблема чыноўнікаў, што імкнуцца пераўтварыць сваю «Белую Русь» у палітычную партыю, спароджаны адной і той жа прычынай. Але гэтыя, прыватныя на першы погляд, праблемы штодня адгукаюцца ўсім нам. Леташняя інфляцыя і дэвальвацыя — прамыя наступствы палітыкі, якая здзяйсняецца ва ўмовах закрытага доступу так званымі элітамі, а іншымі ў такіх умовах эліты і не могуць быць.

АД РЭДАКТАРА

# БАЙКОТ–УДЗЕЛ: НЕ ТАК І НЕ ГЭТАК

**Працяг. Пачатак на стар. 1.**

Нельга папракаць апазіцыю за яе слабасць пад такімі рэпрэсіўным ціскам на працягу ўжо амаль двух дзесяцігоддзяў. Але можна і варта ўпікаць за сваркі паміж сабой, за амбіцыі і нежаданне дасягнуць магчымага: дамовіцца аб адзінай стратэгі і тактыцы, хаця б падчас выбарчай кампаніі. Гэта адзінае, што можа ўзмацніць яе сілы і яе ўплыў на ход падзей, вярнуць аўтарытэт у грамадстве.

Грамадству ж ад апазіцыі патрэбна адно і зразумелае пасланне, якое б мела шанс натуральна супасці з нарастаючым ва ўсіх слаях недаверам да палітыкі ўладаў, пратэстнымі настроямі. Такога паслання пакуль няма.

Праўда, ужо ёсць прызнанне дамінантнай ідэяй абвяшчэння кампаніі байкоту. Але трактоўка яго зместу і фармату на розных этапах перадвыбарчай кампаніі мае істотныя, калі не сказаць прынцыповыя, разыходжанні. Размытым выглядае і разуменне апазіцыйнымі лідарамі азначэння тэрміна «актыўны» байкот, яго напаўнення канкрэтнымі практычнымі дзеяннямі.

## Тактыка апазіцыі

На індывідуальным узроўні разуменне байкоту простае і дакладнае — у адпаведнасці з дысідэнцкім прынцыпам: «Не хлусіць!» ці з прынцыпам, сфармуляваным Салжаніцынам: «Не ўдзельнічаць у хлусні!». У кантэксце выбараў гэта азначае: самому ў кандыдаты не вылучацца, у галасаванні не ўдзельнічаць. Думаю, што львіная доля беларускіх выбарцаў так і зробіць. А частка з іх даўно так і дзейнічае.

Іншая справа — рэалізацыя байкоту для партый і палітычна ангажаваных арганізацый, па азначэнню скіраваных на барацьбу за ўладу: праз свабодныя выбары ў дэмакратычных краінах і сацыяльныя ўзрушэнні, рэвалюцыю — у недэмакратычных. Яшчэ складаней, у такіх, як Беларусь, — недэмакратычных, але з рудыментамі дэмакратычных працэдур. Магчыма, асэнсаванне байкоту ў новым фармаце, вынайдзеным Махатмам Гандзі і аздобленым у шэрагу краін яго паслядоўнікамі, а менавіта, негвалтоўнага супраціву — дапамагло б апазіцыі дакладна вызначыцца з практыкамі рэалізацыі ідэі байкоту.

Пакуль жа грамадству прапанавана дзве версіі ўдзелу-няўдзелу ў выбарах, акрэсленых у даволі агульных контурах.

Першая версія, бескампрамісная — безагаворачны актыўны байкот («Пратэст праз байкот») без вылучэння кандыдатаў. Тактыка агучана прадстаўнікамі незарэгістраваных Камітэтаў народных сходаў, Еўрапейскай Беларусі і зарэгістраванага прафсаюза РЭП. Формулу «актыўны байкот» палітык Віктар Івашкевіч расшыфраваў так: актыўная агітацыя за тое, каб не хадзіць на выбары; актыўнае назіранне за галасаваннем, з тым, каб зафіксаваць, што выбарцы праігнаравалі выбары; пасля арганізацыя людзей на вулічны пратэст з патрабаваннем свабодных парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў. Згодныя ісці на выбары, па гэтай канцэпцыі, свядома ці не гуляюць на рэжым.

Другая версія, кампрамісная, зводзіцца да ўдзелу ў выбарчай кампаніі і няўдзелу ў саміх выбарах. Кандыдаты вылучаюцца, аднак мусяць (пакідаючы за сабой права) зняцца перад датэрміновым галасаваннем. Паводле сябра сойму БНФ Юрыя Чавусава: «Агітацыя за байкот, але вылучэнне кандыдатаў як своеасаблівых легальных агітатараў за байкот».

З пэўнымі нюансамі аб прыхільнасці да гэтай тактыкі заявілі паасобку: зарэгістраваныя Партыя БНФ і Аб'яднаная грамадзянская партыя, камітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», рух «За свабоду» і грамадзянская кампанія «Гавары праўду». Партыя левых «Справядлівы свет», якая разам з вышэйназванымі арганізацыямі стварыла «кааліцыю шасці», сваёй пазіцыі і гатоўнасці аб зняцці кандыдатаў не выказала.

Сумесную заяву «Кааліцыя шасці» пакуль што не прыняла. Такі намер яе чальцы мелі, з гэтай нагоды сабралі нават журналістаў, аднак зноўку пасварыліся, да пендалю ўключна. Можна, канешне, і так адстойваць свой асабісты гонар, губляючы пры гэтым супольны гонар дэмакратычнай апазіцыі ў вачах людзей.

Ні словам не адгукаецца на выклік часу Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), даведзеная яе старшынёй Анатолем Ляўковічам да стану крайняй маргіналізацыі. Не чуваць і Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады.

## Па міннаму полю

Відавочна, што зняцце апазіцыйных кандыдатаў з выбарчай дыстанцыі магло б стацца гучнай, заўважнай падзеяй, здольнай актывізаваць беларускае грамадства, адкрыўшы яму ўяве ўвесь імітацыйны характар выбараў, прыцягнуць да праблем Беларусі ўвагу міжнароднай супольнасці. Але зняцце толькі адначасовае і толькі ўсіх.

Але менавіта тут і палягаюць як лініі ўнутраных расколаў апазіцыйных сіл, так і міннае поле, на якім яны ўжо не раз і не два падрываліся — адсутнасць адзінства. Кантроль за кандыдатамі — як вылучыць іх, так і зняць — маюць выключна зарэгістраваныя партыі. На што і зрабіла ўпор АГП. Тыя ж, што вылучаюцца праз збор подпісаў, — вольныя гульцы. Ды і партыі часцяком грашылі адмовамі ад ранейшых рашэнняў, са спасылкай на змену абставін. І патэнцыял іх істотна падарваны. Усё зноў можа атрымацца так, як заўсёды.

Яшчэ ёсць час, каб апазіцыі выйсці на, хай сабе на недасканалую, але адзіную тактыку, што лепш за яе адсутнасць. Аднак час бяжыць надзвычай імкліва.

САНКЦЫІ

# ЭКСПЕРТНЫЯ АЦЭНКІ І ЛАБІСЦКАЯ ПРАЦА

Вольга ХВОІН

**Еўрасаюз разглядае пытанне аб пашырэнні спісу беларускіх чыноўнікаў, якім забаронены ўезд на тэрыторыю ЕС. А «Офіс за дэмакратычную Беларусь» распаўсюджвае заяву, у якой гаворыцца аб мэтазгоднасці скараціць «чорны» спіс.**




Майя Качыянчыч, прэс-сакратар вярхоўнага прадстаўніка ЕС па замежных справах і палітыцы бяспекі Кэтрын Эштан, каментуючы ініцыятыву пераглядзець дадзены спіс неўязных, заявіла БелаПАН: «Мяч на баку беларускіх уладаў. Яны павінны вызваліць і рэабілітаваць усіх палітычных зняволеных, і тады ЕС зможа рэагаваць адпаведна».

У заяве «Офіса за дэмакратычную Беларусь» гаворыцца: «Паколькі відавочна, што Еўрапейскі саюз не стане звяртацца да рэальных эканамічных санкцый для аказання ціску на беларускія ўлады, шэраг беларускіх арганізацый і палітыкаў прытрымліваюцца думкі, што перагляд так званага чорнага спісу на ўезд у ЕС дазволіць паскорыць працэс вызвалення палітвязняў у Беларусі».

Кіраўнік офіса Вольга Стужынская тлумачыла, што са спісу прапануецца выключыць рэктараў дзяржаўных ВНУ (яны маюць дачыненне да выключэння студэнтаў з палітычных матываў) — гэта мусіць садзейнічаць рэфармаванню сістэмы беларускай вышэйшай адукацыі. Прапануецца таксама выключыць з пераліку прозвішча бізнэсмэна Уладзіміра Пефціева (яго называюць «гаманцом Лукашэнкі»), паколькі, па словах Стужынскай, пад крытэрыі, на падставе якіх ён уключаны ў спіс, падпадаюць практычна ўсе дзяржпрадпрыемствы і любы буйны бізнэс у Беларусі, які таксама можна назваць спонсарамі рэжыму. Акрамя таго, адзначыла кіраўнік офіса, у спісе неўязных «ёсць людзі, якія знаходзяцца там пяць гадоў, якія памерлі або ўжо даўно не займаюць сваіх пасадаў», — напрыклад, былы кіраўнік Белтэлерадыёкампаніі Аляксандр Зімоўскі (шмат гадоў адпрацаваў у сістэме дзяржаўнай прапаганды), які цяпер працуе ў Расіі.

«Я не бачу за апошнія гады, як візавыя санкцыі дапамаглі нам палепшыць сітуацыю, яна толькі пагаршаецца. Я не бачу, як гэтыя санкцыі могуць дапамагчы вызваленні палітвязняў», — кажа Стужынская.

Скандальны дакумент аб мэтазгоднасці прымянення санкцый у дачыненні да беларускіх чыноўнікаў абмяркоўваўся экспертнай супольнасцю, але не быў падпісаны, — напісаў у сваім блогу мастацкі кіраўнік Свабоднага тэатра Мікалай Халезін, які цяпер жыве ў эміграцыі. Таксама Халезін напісаў, што ідэя перагляду санкцый у дачыненні да Беларусі з боку ЕС належыць «маладым прагматыка», аб'яднаным вакол зарэгістраванага ў Літве Беларускага інстытуту стратэгічных даследаванняў (BISS). У ліку лабістаў, па інфармацыі Халезіна, палітолагі Юрый Чавусаў, Дзяніс Мельянцоў і Аляксей Пікулік.

Акадэмічны дырэктар BISS Аляксей Пікулік ад гэтай інфармацыі адхрысціўся, заявіўшы, што названая ўстанова не мае дачынення да ініцыятывы перагляду спісу неўязных у ЕС чыноўнікаў.

Палітолаг Юрый Чавусаў падкрэслівае, што «запіс у блогу Халезіна не абавязкова мусіць быць праўдай». «Так, была размовы сярод экспертаў выступіць з прапановай, каб ЕС ставіўся больш абачліва да ўключэння ў спіс неўязных персаналій. І эксперты прыйшлі да высновы, што не наша гэта справа выступаць з падобнымі калектыўнымі зваротамі, лепш сваю пазіцыю мы выкладзем у артыкулах, што і было зроблена. Падкрэсліваю, гэты зварот не быў падпісаны і нікуды не пайшоў», — адзначае Чавусаў.

«Я б увогуле не ставіў пытанне рубам: «Вы за санкцыі ці супраць?». Санкцыі — гэта палітычная рэчаіснасць, мы можам толькі ацэньваць іх эфектыўнасць ці неэфектыўнасць. Санкцыі — гэта персанальныя меры, і імі можна дамагчыся персанальных саступак, але давайце не будзем перабольшваць іх значнасць. Санкцыі не вядуць да сістэмных зменаў, да ўсяго ізаляцыя вядзе да страты кантролю над сітуацыяй. Маё прыватнае меркаванне, я не бачу, за што ў гэты «чорны» спіс уключаць Шчадрыну (былая намесніца рэдактара «Советской Белоруссии» — рэд.), але я не гатовы і гаварыць, каго туды варта ўпісваць ці выкрэсліваць. Медыі змяшалі дзве ініцыятывы — экспертныя ацэнкі і лабісцкую працу. І калі нехта хоча прадставіць гэты непадпісаны зварот як лабісцкую дзейнасць, ну што ж... Нельга шукаць у ЕС нейкіх акрэсленых груповак, што маюць розныя пазіцыі да санкцыяў, ёсць групы, якія хочуць уплываць, а ёсць тыя, хто не цікавіцца гэтым. Так, ёсць дзве стратэгіі, але яны не ўзаемавыключальныя. Санкцыі маюць сэнс тады, калі сумяшчаюцца з перамоўным працэсам. Сумяшчэнне бізуна і перніка, на мой погляд, — найбольш адэкватная стратэгія да беларускага рэжыму. І пернікі гэта неабавязкова слаўтыя мільярды МВФ, яны могуць быць не такія добрыя для рэжыму, але пазітыўныя для беларускага грамадства, напрыклад, вырашэнне візавага пытання», — гаворыць Чавусаў.

Кіраўнік руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч, які ў прынцыпе выступае за дыялог з беларускімі ўладамі, гаворыць, што візавыя санкцыі маюць сэнс. «Мяркую, што візавыя санкцыі трэба шырока прымяняць, бо ўлада дэманструе абсалютнае ігнараванне прапановаў ЕС аб супрацоўніцтве, аб прыпыненні рэпрэсій. І канкрэтныя людзі мусяць канкрэтна адказваць. Я супраць шырокіх эканамічных санкцый, бо яны пагаршаюць сітуацыю простых людзей і змяншаюць праеўрапейскія настроі. А візавыя патрэбныя. Як толькі перапыняцца рэпрэсіі, я думаю, што ўсе візавыя санкцыі будуць прыпыненыя. Як гэта было тры гады таму, калі распачынаўся той першы дыялог».

Ці адчувальныя для рэжыму Лукашэнкі санкцыі? Дастаткова паглядзець пару выпускаў навінаў па беларускім тэлебачанні, каб зразумець, наколькі хваравітая рэакцыя на гэты інструмент міжнароднага ўплыву. Да інфармацыі: Еўрапейскі саюз займае другое месца ў беларускім экспарце — 39% па выніках 2011 года. «Усё ж такі Еўрапейскі саюз — гэта наш стратэгічны партнёр з пункту гледжання знешняга гандлю», — заяўляў намеснік міністра замежных спраў Беларусі Аляксандр Гур'янаў. І візавыя абмежаванні для рэжыму як прывід эканамічных санкцый, што ў пэўны момант можа адчувальна ўдарыць пад дых.

Хістанні асобных беларускіх апазіцыянераў за аслабленне санкцый на гэтым фоне выглядаюць незразумела. І могуць адгукнуцца зніжэннем увагі міжнароднай супольнасці да беларускіх праблем, змяншэннем хвалі салідарнасці.

САЮЗ

# СВАБОДА, РОЎНАСЦЬ, БАНКРУЦТВА

Вольга ХВОІН

**Беларусь павінна атрымаць максімальную выгаду ад уваходжання ў Адзіную эканамічную прастору, заявіў на пасяджэнні Саўміна прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч. Разам з тым некаторыя беларускія прадпрыемствы паведамілі, што ўжо панеслі страты ад новых братэрскіх умоў працы.**




«Мы павінны планаваць уласнае развіццё з улікам стратэгій нашых партнёраў. Нам трэба актывізаваць працу і атрымаць максімальную выгаду ад працы АЭП, — падкрэсліў прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч. — Мы павінны крэатыўна рэалізоўваць сваю эканамічную стратэгію, павышаць канкурэнтаздольнасць краіны, выкарыстоўваючы магчымасці інтэграцыі, і не толькі за кошт Адзінай эканамічнай прасторы, — працягнуў думку прэм'ер. Ён падкрэсліў важнасць дасягнення запланаваных паказчыкаў па росту экспарту і выхаду на дадатнае знешнегандлёвае сальда. — Валаўтваральныя экспарцёры — Мінпрам і канцэрн «Белнафтахім» упэўнена адчуваюць эканоміку сваіх прадпрыемстваў, а гэта больш за палову экспарту краіны».

На фоне такіх абнадзейваючых заяў інфармацыя ад Дзмітрыя Дзічкоўскага — дырэктара буйнога і ўсім вядомага ў Беларусі СП ЗАТ «Мілавіца» — паказвае непрывабную рэчаіснасць, якую прынеслі новыя міждзяржаўныя пагадненні і, адпаведна, новыя ўмовы гаспадарання. На выніках 2011 года «Мілавіца» панесла дадатковыя выдаткі ў памеры 2,5 мільёна еўра і таму мае намер ініцыяваць вяртання прэферэнцый па мытных пошлінах. Матэрыялы для вытворчасці гарсэтных вырабаў прадпрыемства імпартуе з 16-ці краін свету. Да ўступлення ў сілу правілаў Мытнага саюза сярэдняя мытная пошліна на матэрыялы, што імпартуюцца, складала для «Мілавіцы» 4,5%. А з 1 студзеня 2010 года яна вырасла да 12,5%, аўтаматычна паўтарыўшы аналагічную мытную стаўку Расійскай Федэрацыі. Павышэнне пошлін паставіла пад пагрозу цэнавую канкурэнтаздольнасць беларускага вытворцы гарсэтных вырабаў, заяўляе Дзмітрый Дзічкоўскі.

Апроч таго, з 2010 года стаўкі ўвазных мытных пошлін на гатовыя гарсэтныя вырабы пры пастаўках у краіны Мытнага саюза знізіліся з 20% да 10%, што палегчыла доступ еўрапейскім вытворцам на ёмісты расійскі рынак. Апошняе сталася вельмі адчувальным для «Мілавіцы», у якой 65% продажаў прыпадае на Расійскую Федэрацыю. У геаграфіі збыту, акрамя таго, 20% продажаў ажыццяўляецца на ўнутраным беларускім рынку, 10% — ва Украіне, астатняе — на рынках ЕС. Расія збіраецца ўступіць у Сусветную гандлёвую арганізацыю, і гэта яшчэ больш ускладніць маркетынгавую сітуацыю для беларускага вытворцы гарсэтных вырабаў — будуць адменены ахоўныя пошліны і аб'яднаны рынак краін Адзінай эканамічнай прасторы апынецца цалкам адкрытым для еўрапейскіх канкурэнтаў «Мілавіцы». У той жа час для беларускіх таваравытворцаў захоўваюцца ўвазныя пошліны ў памеры 12% пры экспарце ў краіны Еўрасаюза.

«На рынках Еўрасаюза мы становімся неканкурэнтаздольнымі, бо выплата пошліны на сыравіну ў памеры 12,5% прыводзіць да адпаведнага падаражання нашых вырабаў для еўрапейскага спажыўца, — патлумачыў генеральны дырэктар прадпрыемства. — Еўрапейскія вытворцы знаходзяцца ў загадзя больш выйгрышным становішчы, пры нулявых стаўках на сыравіну і нулявых, у перспектыве, пошлінах пры ўвозе на тэрыторыю АЭП».

Кіраўнікі прадпрыемства неаднаразова ініцыявалі ў рамках Мытнага саюза перагляд дзеючых правілаў і вяртанне «Мілавіцы» прэферэнцый па мытных пошлінах. Захаванне канкурэнтаздольнасці вядучага беларускага брэнда павінна стаць адной з перагаворных пазіцый Беларусі ў фармаванні правілаў Адзінай эканамічнай прасторы, мяркуе Дзмітрый Дзічкоўскі.

Пра праблемы беларускіх прадпрыемстваў пасля ўступлення ў АЭП папярэджваў, напрыклад, эканаміст Леанід Заіка. На яго думку, з-за больш жорсткіх умоў канкурэнцыі на агульным рынку Беларусі, Расіі і Казахстана прыкладна 10–15% беларускіх прадпрыемстваў увогуле будуць зачыненыя. «З'явіцца прадукцыя канкурэнтаў, якая будзе мець больш нізкую цану, што выгадна спажыўцам. Рызыкі беспрацоўя будуць нівеляваць міграцыяй рабочай сілы ў Расію. Магчымыя і рызыкі напаўнення бюджэту ў сувязі з тым, што згубім частку ПДВ, магчымыя рызыкі з падтрыманнем занятасці і ўтрыманнем на плыву шэрагу дзяржаўных прадпрыемстваў. Гэта рэаліі рынкавай эканомікі», — гаворыць эканаміст.

Адзіная эканамічная прастора прадугледжвае свабодны гандаль таварамі, паслугамі, свабоднае перамяшчэнне чалавечага і фінансавага капіталу. І вось гэтыя, падавалася б, прывабныя магчымасці, адкрываюць дарогу не толькі перспектывам, але і праблемам. Новыя рынкі збыту і адначасова меншая абароненасць беларускіх вытворцаў ад канкурэнцыі, «Мілавіца» — яркі прыклад. Атрымалася, што прадпрыемства мае неблагую якасць прадукцыі, але неканкурэнтаздольныя цэны. Тым больш трэба памятаць, што расійскі і казахстанскі рынак спажывецкіх тавараў насычаны таннай кітайскай прадукцыяй, якая заўжды гатовая пацясніць любы тавар, што крыху аслабіў свае пазіцыі на спажывецкім рынку. Адпаведна, гэтыя ж недарагія тавары хутка мусяць запоўніць прылаўкі беларускіх крамаў. А з улікам пагаршэння пакупной здольнасці насельніцтва не трэба доўга гадаць, на карысць якога прадукту будзе рабіцца выбар.

Да інфармацыі: за 11 месяцаў мінулага года, паводле Белстата, адмоўнае сальда гандлю таварамі з краінамі Мытнага саюза вырасла з 6,8 да 9,4 мільярда долараў. І гэта ва ўмовах дэвальвацыі, якая мусіла ўмацаваць пазіцыі айчынных тавараў па-за межамі краіны. Нагадаем, сукупная дэвальвацыя беларускага рубля за 2011 год склала амаль 190%. І нават гэта не выратавала беларускіх экспарцёраў, хаця яны і мелі дэвальвацыйныя прыбыткі.

Яшчэ адзін істотны момант: уступленне Расіі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю накладае на партнёраў па Мытным саюзе абавязацельства перайсці на нормы СГА, і больш за тое, уступіць у яе. Факт адкрытага для сусветных вытворцаў беларускага рынку ставіць беларускіх вытворцаў у адну лінейку з вядомымі прадпрыемствамі. Але ці гатовыя айчынныя прадпрыемствы да такой канкурэнцыі? Сусветныя брэнды з высокім кантролем якасці і вытворчасцямі ў краінах трэцяга свету, дзе нізкія расходы на заработную плату, — гэта хіба што амаль новая з'ява для многіх беларускіх вытворцаў, якія прызвычаіліся да вымушанай неперабарлівасці спажыўца.

Да слова, уваход Беларусі ў СГА будуць курыраваць расійскія спецыялісты, якія ўдзельнічалі ў перамовах па ўступленні ў названую арганізацыю РФ. «Мы падпісалі дэкларацыю з Рэспублікай Беларусь аб узаемадзеянні і дапамозе Беларусі па ўступленні ў СГА. Беларускую перамоўную групу з СГА мы ўмацоўваем нашымі перамоўнікам. Курыраваць яе будзе Мядзведкаў, які займаўся перамовамі Расіі», — паведаміў пасол Расіі ў Беларусі Аляксандр Сурыкаў. Дыпламат адзначыў, што ад уступлення ў СГА Беларусь і Расія атрымаюць як пазітыўныя, так і негатыўныя змены.

«Для Расіі і для Беларусі знізіцца ўзровень падтрымкі сельскай гаспадаркі. Нам давядзецца займацца нетарыфнай падтрымкай сельскай гаспадаркі. У машынабудаванні рынкі адкрываюцца больш нізкімі мытнымі пошлінамі. Трэба зніжаць выдаткі, павышаць прадукцыйнасць працы», — адзначыў Сурыкаў.

Што тычыцца выгадаў, то эксперты Еўразійскага банка развіцця падлічылі ідэальны сумарны эфект ад развіцця інтэграцыйных сувязяў у рамках АЭП за перыяд 2011–2030 гадоў. Беларусі гэтая авантура быццам бы можа даць 15% дадатковага прыросту ВУП і складзе 170 мільярдаў долараў. Такі прарыў можна чакаць за кошт развіцця гандлёвых сувязяў, кааперацыі вытворчасцяў і абмену тэхналогіямі ўнутры АЭП. Аднак эканаміст Леанід Злотнікаў да падобных прагнозаў ставіцца стрымана і нагадвае, што гэты варыянт разлічваўся на ўмове, што ў рамках адзінай прасторы кошты на энерганосьбіты для Беларусі будуць прадстаўляцца без экспартных пошлін, будуць адзінымі для ўсіх краін-удзельніц. Але прадказваць энергетычнае беларуска-расійскае пытанне — няўдзячная справа.

ІНВЕСТЫЦЫІ

# КАМУ ГЭТА ТРЭБА?

**Летась кіраўніцтва Беларусі паставіла задачу прыцягнуць прамых замежных інвестыцый на суму 6,4–6,5 мільярда долараў. Але за студзень–лістапад на чыстай аснове наша краіна змагла прыцягнуць усяго толькі 1,35 мільярда долараў. І гэта з улікам продажу «Белтрансгаза» за 2,5 мільярда долараў. У справаздачы Белстата гаворыцца, што «эканоміка Беларусі пачала атрымліваць адчувальныя замежныя інвестыцыі».**



Агулам, паводле афіцыйнай статыстыкі, за мінулы год інвестыцыі выраслі ў 2,1 разу, і склалі 19 мільярдаў долараў ЗША. Асноўнымі інвестарамі з'яўляюцца суб'екты гаспадарання з Расіі, Злучанага Каралеўства, Кіпра і Аўстрыі. Самыя вялікія замежныя ўклады паступалі ў арганізацыю гандлю, транспарту і прамысловасці. Асноўнай формай для прыцягнення інвестараў сталі даўгавыя інструменты, якія прынеслі 90,8% прамых інвестыцый. Інвестыцыі не ад прамых інвестараў склаў 5,6 мільярда долараў ЗША, што таксама ў 1,6 разу больш, чым за 2010 год.

Кіраўнік Мінэканомікі Мікалай Снапкоў на пасяджэнні Савета міністраў заявіў, што яго ведамства будзе «больш агрэсіўна, мэтанакіравана працаваць з дзяржорганамі» над павышэннем інвестыцыйнага рэйтынгу Беларусі.

Гэта, паводле слоў Снапкова, неабходна «для дасягнення ў кароткатэрміновым перыядзе не менш як 30-га месца ў рэйтынгу Doing Business». Як мяркуе міністр, увагу варта сканцэнтраваць на выраўноўванні і стварэнні прыцягальнага асяроддзя для працы бізнэсу на тэрыторыі Беларусі. (Беларусь у даследаванні IFC і Сусветнага банка «Doing Business–2012» заняла 69-е месца па ўмовах вядзення бізнэсу са 183 краін).

На яго думку, для дынамічнага прасоўвання працы неабходна задзейнічаць дырэктыву № 4 (дырэктыва аб эканамічнай лібералізацыі, падпісаная прэзідэнтам 31 снежня 2010 года). «Гэта наш пункт росту, гэта пачатак вобразу новай, гнуткай, эфектыўнай, дынамічнай эканомікі», — упэўнены міністр.

Спецыялісты Мінэканомікі адзначаюць, што ў 2012 годзе ў эканоміку трэба прыцягнуць 3,7 мільярда долараў прамых замежных інвестыцый на чыстай аснове, у тым ліку 2,5 мільярда долараў — за кошт продажу дзяржуласнасці. Прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч заяўляў, што патрэба эканомікі ў інвестыцыях у 2012 годзе складае не менш як 15 мільярдаў долараў, з якіх за кошт унутраных рэсурсаў можна папоўніць толькі траціну. «Для абнаўлення, інавацый патрэбныя сродкі, патрэбен капітал, якога ўнутры краіны недастаткова. Ліквіднасць нашых камерцыйных банкаў невысокая. Рэсурсы гаспадарчых суб'ектаў і банкаўскай сістэмы для фінансавання і крэдытавання эканомікі ў бягучым годзе ацэньваюцца каля 5 мільярдаў. Хоць для развіцця нам трэба мець каля 15 мільярдаў долараў», — адзначыў кіраўнік беларускага ўрада.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 13 ЛЮТАГА, ПАНЯДЗЕЛАК

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00, 07.05, 07.35, 08.10, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.45** Навіны.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Меладраматычны серыял «Маруся».
**11.00** Серыял «За ўсё табе дзякую-2».
**12.10** Камедыя «Мой любімы раздалбай».
**13.45** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**14.45** Відэафільм АТН «Шуміліна. Вяртанне да вытокаў» цыклу «Зямля беларуская».
**15.10,19.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Культурныя людзі.
**15.55** Да цешчы на бліны.
**16.25** Цыкл тэлеперадач «Дыялогі пра цывілізацыю».
**16.55** Меладраматычны серыял «Маруся».
**17.50** Серыял «За ўсё табе дзякую-2».
**18.45, 01.05** Зона Х .
**19.35** Арэна.
**19.55** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.40, 01.15** Дзень спорту.
**21.50** 54-я цырымонія ўручэння музычнай прэміі «Грэмі».
**00.05** Клуб рэдактараў.

---

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** АНТ прадстаўляе: «Я спяваю!».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Я спяваю!». Працяг.
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Вялікая розніца».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.10** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Гонар нацыі».
**22.25** «Цюдоры». Шматсерыйны фільм.
**23.25** Прэм'ера «Аляксей Мішын. Паміж зоркамі».
**00.25** «След».
**01.00** Начныя навіны.

---

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.35** «Вялікі сняданак».
**10.10** «Зялёны агурок. Карысная перадача».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Гарачы лёд».
**13.05** «Далёкія сваякі».
**13.50** «Студэнты». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «Вялікі горад».
**15.15** Канцэрт М.Задорнава.
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.10** «Наша справа».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.35** Фільм «Вораг №1». Расія, 2008 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.50** «Прафесійны бокс».

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Гарачы лёд».
**09.55** Навіны надвор'я.
**10.25** Школа рамонту.
**11.25** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**12.30** Іранічны дэтэктыў «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана». (СССР).
**15.10** Пазакласная гадзіна .
**15.30** Нянудны глобус.
**15.55** Пад грыфам «Вядомыя» .
**16.25** Баявік «Сітуацыя 202» (Расія-Ўкраіна).
**17.25** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Беларуская часіна.
**19.55** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**20.30** Жаночая ліга.
**21.00** Калыханка.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія) .
**22.00** Авертайм.
**22.30** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.
**23.25** Крымінальная камедыя «Трыста гадоў пасля» (Расія).

---

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**05.20** «Даведнік».
**06.05** М/с «Апошні з магікан».
**06.40** «Цік – так».
**07.05, 08.05** Т/с «Галоўныя ролі».
**09.05** Выніковая праграма «Разам».
**10.05, 11.05** М/ф «Старэйшая сястра».
**12.20, 22.05** Д/с «І ты, Брут? Сусветная гісторыя здрад».
**13.20** М/с «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.40** Т/с «Старшакласнікі».
**14.30** Т/с «Дзядуля маёй мары».
**15.25** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**17.05, 23.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.25** «Акцэнты».
**18.40** «Саюзнікі».
**19.20** «Усюды жыццё».
**19.50** «Сардэчна запрашаем».
**20.30** «Беларусь сёння».
**21.30** «Свет спорту».
**00.05** Т/с «Нашы суседзі».
**01.05** Прафілактыка.

**Discovery CHANNEL**

**05.00, 14.35** Махінатары.
**05.25, 10.00, 00.55** Гіганцкія будоўлі.
**06.20, 17.00, 04.10** Як гэта ўладкавана?
**06.50, 17.30, 04.40** Як гэта зроблена?
**07.15** Крутыя выбухі.
**08.10, 16.00, 01.50** Разбуральнікі легенд.
**09.05, 13.40, 04.05** Круты цюнінг.
**10.55** Ці магчыма гэта?
**11.50** Скрыўленне часу.
**12.45, 18.00, 23.00** Top Gear.
**15.05** Баявыя машыны.
**19.00, 00.00** Залатая ліхаманка.
**20.00** Вугаль.
**21.00** Рыба-меч.
**22.00** Мяжа трываласці.
**02.45** Вокамгненныя катастрофы.

**EUROSPORT**

**10.30** Лёгкая атлетыка. Міжнародныя спаборніцтвы ў памяшканні. Карлсруэ.
**11.15, 15.30, 20.45** Футбол. Кубак афрыканскіх нацый. Экватарыяльная Гвінея. Фінал.
**12.30** Лыжныя гонкі. Кубак свету. Жанчыны. 4 х 5 км класічным ходам.
**13.15, 22.00** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. HS 145. Вілінген.
**14.30** Біятлон. Кубак свету. Змяшаная эстафета.
**16.45, 00.45** Снукер. Адкрыты чэмпіянат Уэльса. Дзень 1.
**19.45, 02.30** Футбол. Еўрагалы. Часопіс.
**22.45** Вось дык так!!!
**23.00** Пра рэстлінг. Агляд WWE.
**23.45** Пра рэстлінг. Vintage Collection. ЗША.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**07.40** Зона «Свабоды».
**08.10** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 13 серыя.
**08.55** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**09.10** Фільматэка майстроў: «Дні футболу», камедыя, 2003 г., Іспанія.
**11.05** ПраСвет.
**11.30** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 9 серыя.
**11.55** Эксперт.
**12.25** Зона «Свабоды».
**13.00** Дакументальная гадзіна: «Палітычныя забойствы», дак. фільм, 2005 г.
**13.50** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**14.10** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 9 серыя.
**14.35** Эксперт.
**15.05** Фільматэка майстроў: «Дні футболу», камедыя, 2003 г., Іспанія.
**17.00** «Мой родны горад», серыял.
**17.25** Зона «Свабоды».
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** Дакументальная гадзіна: «Палітычныя забойствы», дак. фільм, 2005 г.
**18.55** «Уладзімір Драбо Камандор», рэпартаж, 2007 г., Беларусь.
**19.30** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.40** Гарачы каментар.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Еўропа сёння.
**20.25** Вагон.
**20.30** «Тэра постсаветыка. Габрэі ў Адэсе», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**21.50** Фільматэка майстроў: «Дні футболу», камедыя, 2003 г., Іспанія.
**23.45** Аб'ектыў.
**00.10** Гарачы каментар.

## 14 ЛЮТАГА, АЎТОРАК

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00, 07.05, 07.35, 08.10, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 23.05** Навіны.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія-Украіна) .
**10.05** Меладраматычны серыял «Маруся» (Украіна).
**11.00** Серыял «За ўсё табе дзякую-2» (Украіна).
**12.10** Арэна.
**12.35** «Еўрафэст». Відэадзённік.
**12.45** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**13.40** Мультфільм.
**13.55** «Толькі жанчына ведае». Ток-шоў.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Каробка перадач.
**15.55** Меладраматычны серыял «Маруся» (Украіна).
**16.50** Серыял «За ўсё табе дзякую-2».
**18.00** Фінал Нацыянальнага тэлевізійнага музычнага праекта «Еўрафэст».
**20.00** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія-Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.40, 01.15** Дзень спорту.
**21.50** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.05** Драматычны серыял «Вар'яты» (ЗША).
**23.25** Рамантычная камедыя «Каханне і іншыя непрыемнасці» (ЗША) .
**01.05** Зона Х.

---

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.05** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсерыйны фільм.
**12.00** «Таццяна Тарасава: «У мяне не ледзяное сэрца».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Шматсерыйны фільм.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Жукаў». Шматсерыйны фільм.
**22.10** «Цюдоры». Шматсерыйны фільм.
**23.10** «Несакрэтныя матэрыялы».
**23.40** «Зваротны адлік».
**00.10** «След».
**00.45** Начныя навіны.

---

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Фільм «Вораг №1». Расія, 2008 г.
**10.05** «Далёкія сваякі».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты». Гумарыстычны серыял.
**14.40** Фільм «Пажарны сабака». ЗША-Канада, 2007 г.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.25** «Знахар». Серыял. Заключная серыя.
**21.25** «Доктар Тырса». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Небяспечны месяц».
**23.35** «Аўтапанарама».
**00.00** «NEXT-2». Серыял.
**00.50** «Сакрэтныя тэрыторыі».

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Гарачы лёд» (Расія-Ўкраіна).
**10.00** Баявік «Сітуацыя 202» (Расія-Ўкраіна).
**11.10** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**12.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.
**12.55** Авертайм.
**13.25** Кінаспробы.
**14.00** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**14.30** Жаночая ліга.
**15.05** Пазакласная гадзіна.
**15.20** Нянудны глобус.
**15.50** Цела чалавека.
**16.20** Баявік «Сітуацыя 202» (Расія-Ўкраіна).
**17.25** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Беларуская часіна.
**19.55** Футбол. Ліга Еўропы. Прамая трансляцыя.
**21.55** КЕНО.
**22.00** Тэлебарометр.
**22.05** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**22.35** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Прамая трансляцыя.
**00.40** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА.

---

**05.00** Прафілактыка.
**10.05, 11.05** М/ф «Ало, Варшава».
**11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Д/с «І ты, Брут? Сусветная гісторыя здрад».
**13.20** М/с «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.40** Т/с «Старшакласнікі».
**14.30** Т/с «Давай пажэнімся».
**15.25** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**17.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.25** «Акцэнты».
**18.40** Т/с «Паляванне на Берыю».
**20.45** «Простая мова».
**21.25, 04.25** «Дыяспары».
**22.05** М/ф «Падары мне месяцовае святло».
**00.05, 01.05** Т/с «Нашы суседзі».
**02.00** «Усюды жыццё».
**03.30** Т/с «Галоўныя ролі».

**Discovery CHANNEL**

**05.00, 14.35** Махінатары.
**05.25, 10.00, 19.00, 00.00, 00.55** Гіганцкія будоўлі.
**06.20, 17.00, 04.10** Як гэта ўладкавана?
**06.50, 17.30, 04.40** Як гэта зроблена?
**07.15, 15.05** Баявыя машыны.
**08.10, 16.00, 01.50** Разбуральнікі легенд.
**09.05, 13.40, 04.05** Круты цюнінг.
**10.55** Залатая ліхаманка.
**11.50** Вугаль.
**12.45, 18.00, 23.00** Top Gear.
**20.00** Грандыёзныя пераезды.
**21.00** Марскі горад.
**22.00** Мяжа трываласці.
**02.45** Вокамгненныя катастрофы.

**EUROSPORT**

**10.30** Футбол. Еўрагалы. Часопіс.
**11.30** Снукер. Адкрыты чэмпіянат Уэльса. Дзень 1.
**13.30** Тэніс. Турнір WTA. Дзень 1.
**15.30, 01.00** Тэніс. Турнір WTA. Дзень 2.
**17.15, 21.00, 22.00** Снукер. Адкрыты чэмпіянат Уэльса. Дзень 2.
**19.45** Вось дык так!!!
**20.00, 02.30** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. Кваліфікацыя. HS 140. Клігенталь.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**07.35** «Цудам ацалелы», маст. фільм, 2004 г., Польшча.
**09.10** «Мой родны горад», серыял: 24 серыя.
**09.35** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**10.10** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.25** «Тэра постсаветыка. Габрэі ў Адэсе», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**10.50** «Ліст з Малдовы», дак. фільм, 2009 г., Румынія.
**11.20** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**11.30** «Уладзімір Драбо Камандор», рэпартаж, 2007 г., Беларусь.
**11.55** «Ранча», серыял: 30 серыя.
**12.45** «Мой родны горад», серыял: 24 серыя.
**13.10** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**13.40** «Ліст з Малдовы», дак. фільм, 2009 г., Румынія.
**14.05** «Тэра постсаветыка. Габрэі ў Адэсе», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**14.35** «Уладзімір Драбо Камандор», рэпартаж, 2007 г., Беларусь.
**15.05** МакраФон: XIV Фестываль песеннай паэзіі і аўтарскай песні «Бардаўская восень–2007»: выступ Змітра Вайцюшкевіча з «WZ-аркестрам»: ч. 1.
**15.35** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**16.00** «Каханне ў падземным пераходзе», камедыя, 2006 г., Польшча.
**17.00** «Мой родны горад», серыял: 25 серыя.
**17.25** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Пуаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 5 серыя.
**18.55** Два на два (тэледыскусія).
**19.30** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.40** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.25** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма).
**20.40** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Сальда (эканамічная праграма).
**21.40** «Ратаўнікі», серыял: 7 серыя.
**22.25** Рэпартэр.
**22.50** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**23.20** Аб'ектыў.
**23.45** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 15 ЛЮТАГА, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.05, 07.35, 08.10, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.05** Навіны.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**08.45** Слова Мітрапаліта Філарэта.
**09.10** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія-Украіна).
**10.05** Меладраматычны серыял «Маруся».
**11.00** Серыял «За ўсё табе дзякую-2».
**12.10** Сфера інтарэсаў.
**12.35** «Афган. Трафеі..». Дак. фільм.
**13.00** Драматычны серыял «Вар'яты» (ЗША).
**14.00** Мультфільм.
**14.10** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.
**15.10, 19.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Актуальнае інтэрв'ю.
**15.40** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма пра турызм.
**16.10** Эпоха. Падзеі і людзі.
**16.50** Меладраматычны серыял «Маруся» (Украіна).
**17.45** Серыял «За ўсё табе дзякую-2» (Украіна).
**18.45, 01.20** Зона Х.
**19.30** Зямельнае пытанне.
**19.55** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40, 01.35** Дзень спорту.
**21.50** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.05** Драматычны серыял «Вар'яты» (ЗША).
**23.25** Музычная меладрама «Тое, што называюць каханнем» (ЗША).

### Н

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.05** «Права на абарону».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** «Жукаў». Шматсерыйны фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Жукаў». Шматсер. фільм.
**22.10** «Цюдоры». Шматсерыйны фільм.
**23.10** Асяроддзе пасялення.
**00.10** «Наша Беларaша».
**00.45** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Знахар». Серыял. Заключная серыя.
**09.30** «Аўтапанарама».
**09.50** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «NEXT-2». Серыял.
**15.35** «Доктар Тырса». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.25** Прэм'ера. «Важняк. Гульня навылёт». Серыял.
**21.25** «Доктар Тырса». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Мінск і мінчане».
**23.35** «Дабро пажаліцца».
**00.00** «NEXT-3». Серыял.
**00.50** «Справа асаблівай важнасці».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Гарачы лёд».
**10.00** Баявік «Сітуацыя 202» (Расія-Украіна).
**11.05** Цела чалавека.
**11.35** Наперад у мінулае.
**12.15** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**12.45** Баявік «Дэзертыр» (Расія-Малдова-Балгарыя).
**14.15** Бухта капітанаў.
**15.00** Пазакласная гадзіна.
**15.25** Нянудны глобус.
**15.50** Еш і худней.
**16.20** Баявік «Сітуацыя 202» (Расія-Украіна).
**17.20** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.50** Беларуская часіна.
**19.50** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Прамая трансляцыя.
**21.50** Спортлато 5 з 36.
**21.55** КЕНО.
**22.00** Тэлебарометр.
**22.05** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**22.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Прамая трансляцыя.
**00.40** Баскетбол. Адзіная Ліга ВТБ.

---

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05, 09.05** «Кыргызтан у асобах».
**05.20** Д/с «Формула поспеху».
**06.05** М/с «Апошні з магікан».
**06.40** «Цік – так».
**07.05, 08.05, 02.40** Т/с «Галоўныя ролі».
**09.25** «Даведнік».
**10.05, 11.05** М/ф «Маці і мачаха».
**12.20** Д/с «І ты, Брут? Сусветная гісторыя здрад».
**13.20** М/с «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.40** Т/са «Старшакласнікі».
**14.30** Т/с «Давай пажэнімся».
**15.25** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**17.05, 23.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.25** «Акцэнты».
**18.40, 21.20** Т/с «Паляванне на Берыю».
**22.05** Д/с «Гарадскія легенды».
**00.05, 01.05** Т/с «Нашы суседзі».
**02.00** «Сардэчна запрашаем».
**03.25** «Сакрэтныя матэрыялы».

### Discovery CHANNEL

**05.00, 14.35** Махінатары.
**05.25, 10.00, 10.55, 00.55** Гіганцкія будоўлі.
**06.20, 17.00, 04.10** Як гэта ўладкавана?
**06.50, 17.30, 04.40** Як гэта зроблена?
**07.15, 15.05** Баявыя машыны.
**08.10, 16.00, 01.50** Разбуральнікі легенд.
**09.05, 13.40, 04.05** Круты цюнінг.
**11.50** Грандыёзныя пераезды.
**12.45, 18.00, 23.00** Top Gear.
**19.00, 00.00** Выжыць любым коштам.
**20.00** Выжыць разам.
**21.00** Рачныя монстры.
**22.00** Мяжа трываласці.
**02.45** Вокамгненныя катастрофы.

### EUROSPORT

**10.30** Весь дык так!!!
**10.45** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. Кваліфікацыя. HS 140. Клігенталь.
**11.45** Снукер. Адкрыты чэмпіянат Уэльса. Дзень 2.
**13.30** Тэніс. Турнір WTA. Дзень 2.
**15.30** Тэніс. Турнір WTA. Дзень 3.
**17.15, 23.15, 02.15** Снукер. Адкрыты чэмпіянат Уэльса. Дзень 3.
**19.45, 01.00** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. HS 140. Клігенталь.
**21.50** Абранае па серадах.
**21.55** Конны спорт. World Masters.
**22.55** Навіны коннага спорту.
**23.00** Яхт клуб. Навіны ветразевага спорту.
**23.05** Гольф клуб. Навіны гольфа.
**03.00** Алімпійскі часопіс.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 5 серыя.
**08.25** МакраФон: XIV Фестываль песеннай паэзіі і аўтарскай песні «Бардаўская восень–2007»: выступ Віктара Шалкевіча.
**08.55** «Мой родны горад», серыял: 25 серыя.
**09.20** На колах.
**09.50** Рэпартэр.
**10.15** Сальда (эканамічная праграма).
**10.30** Эксперт.
**11.00** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**11.20** «Ранча», серыял: 31 серыя.
**12.05** МакраФон: XIV Фестываль песеннай паэзіі і аўтарскай песні «Бардаўская восень–2007»: выступ Віктара Шалкевіча.
**12.40** Euromaxx.
**13.05** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 5 серыя.
**13.55** «Мой родны горад», серыял.
**14.20** На колах.
**14.50** Рэпартэр.
**15.15** Сальда (эканамічная праграма).
**15.30** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**15.40** Эксперт.
**16.10** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**16.25** Euromaxx.
**16.55** «Машына зменаў», тэлесерыял.
**17.25** Невядомая Беларусь: «Код прысутнасці», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Ратаўнікі», серыял: 7 серыя.
**18.50** Вагон.
**18.55** Хто ёсць кім?: «Алесь Сураў – непакорны мастак».
**19.10** Сальда (эканамічная праграма).
**19.30** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.40** Гарачы каментар.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Праект «Будучыня».
**20.25** Навігатар.
**20.45** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл: 3 серыя.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Без рэтушы: «Малельнікі за ўвесь свет», рэпартаж, 2011 г., Беларусь.
**21.45** «Quo vadis», тэлесерыял: 3 серыя.
**22.30** Два на два (тэледыскусія).
**22.55** Аб'ектыў.
**23.20** Гарачы каментар.

## 16 ЛЮТАГА, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.05, 07.35, 08.10, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.05** Навіны.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія).
**10.05** Меладраматычны серыял «Маруся» (Украіна).
**11.00** Серыял «За ўсё табе дзякую-2» (Украіна).
**12.10** Зямельнае пытанне.
**12.35** Зброя.
**13.05** Драматычны серыял «Вар'яты» (ЗША).
**14.00** «Здароўе». Ток-шоў.
**15.10, 19.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Актуальнае інтэрв'ю.
**15.40** Зона камфорту .
**16.10** Эпоха. Падзеі і людзі.
**16.50** Меладраматычны серыял «Маруся» (Украіна).
**17.45** Серыял «За ўсё табе дзякую-2» (Украіна).
**18.45, 01.00** Зона Х.
**19.30** Сфера інтарэсаў.
**19.55** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40, 01.15** Дзень спорту.
**21.50** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.05** Драматычны серыял «Вар'яты» (ЗША).
**23.25** Меладрама «Каханне адно» (Расія-Украіна).

### Н

**06.00, 09.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.05** «Права на абарону».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсерыйны фільм.
**12.00** «Жукаў». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны.
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Жукаў». Шматсерыйны фільм.
**22.10** «Цюдоры». Шматсерыйны фільм.
**23.10** «З ног на галаву».
**00.10** «След».
**00.45** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** Прэм'ера. «Важняк. Гульня навылёт». Серыял.
**09.30** «Дабро пажаліцца».
**09.55** «Прыгоды дылетанта».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «NEXT-3». Серыял.
**15.35** «Доктар Тырса». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.25** Прэм'ера. «Важняк. Гульня навылёт». Серыял.
**21.25** «Доктар Тырса». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Праўда».
**23.40** «Аўтапанарама».
**00.00** «NEXT-3». Серыял.
**00.55** «Яшчэ не вечар».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Гарачы лёд» (Расія-Украіна).
**10.00** Баявік «Сітуацыя 202» (Расія-Украіна).
**11.05** Страсці па культуры.
**11.45** Еш і худней.
**12.15** Вышэй за дах.
**12.55** Жансавет.
**13.30** Камедыя «Прыдатны да нестраявой» («Беларусьфільм»).
**15.10** Пазакласная гадзіна.
**15.30** Нянудны глобус.
**15.55** Еш і худней.
**16.25** Баявік «Сітуацыя 202» (Расія-Украіна).
**17.25** Камедыйны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Беларуская часіна.
**19.55** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**20.25** Жаночая ліга.
**20.55** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Прамая трансляцыя. У перапынку.
**21.45** КЕНО.
**22.55** Тэлебарометр.
**23.00** Час футболу.
**23.40** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА.

---

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05, 20.45** «Простая мова».
**05.20** Д/ф «Дом з гісторыяй».
**06.05** М/с «Апошні з магікан».
**06.40** «Цік – так».
**07.05, 08.05, 02.40** Т/с «Галоўныя ролі».
**09.05** «Памятаю блакаду».
**09.25** Праграма «Сардэчна запрашаем.
**10.05, 11.05** М/ф.
**12.20, 22.05** Д/с «Гарадскія легенды».
**13.20** М/с «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.40** Т/са «Старшакласнікі».
**14.30** Т/с «Давай пажэнімся».
**15.25** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**17.05, 23.05** Ток – шоў «Слова за слова».
**18.25** «Акцэнты».
**18.40** Т/с «Паляванне на Берыю».
**21.25, 04.25** «Злачынства і пакаранне».
**00.05, 01.05** Т/с «Нашы суседзі».
**02.00** «Беларусь сёння».

### Discovery CHANNEL

**05.00, 14.35** Махінатары.
**05.25, 10.00, 00.55** Гіганцкія будоўлі.
**06.20, 17.00, 04.10** Як гэта ўладкавана?
**06.50, 17.30, 04.40** Як гэта зроблена?
**07.15, 15.05** Баявыя машыны.
**08.10, 16.00, 01.50** Разбуральнікі легенд.
**09.05, 13.40, 04.05** Круты цюнінг.
**10.55** Рыба-меч.
**11.50** Выжыць разам.
**12.45, 18.00, 23.00** Top Gear.
**19.00, 00.00** Хлопцы з гарматамі.
**20.00** Нічога асабістага.
**21.00** Рос Кемп.
**22.00** Мяжа трываласці.
**02.45** Вокамгненныя катастрофы.

### EUROSPORT

**10.30** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. HS 140. Клігенталь.
**12.00** Снукер. Адкрыты чэмпіянат Уэльса. Дзень 3.
**13.30** Тэніс. Турнір WTA. Дзень 3.
**15.30, 19.45, 02.00** Тэніс. Турнір WTA. Даха. 1/8 фіналу.
**17.15, 22.00** Снукер. Адкрыты чэмпіянат Уэльса. Дзень 4.
**01.00** Покер. Берлін. Агляд.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Quo vadis», тэлесерыял: 3 серыя.
**08.25** «Ратаўнікі», серыял: 7 серыя.
**09.10** «Машына зменаў», тэлесерыял: 3 серыя.
**09.35** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.05** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**10.20** Хто ёсць кім?: «Алесь Сураў – непакорны мастак».
**10.35** Два на два (тэледыскусія).
**11.05** Без рэтушы: «Малельнікі за ўвесь свет», рэпартаж, 2011 г., Беларусь.
**11.25** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл: 3 серыя.
**11.35** Невядомая Беларусь: «Код прысутнасці», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**12.10** «Quo vadis», тэлесерыял: 3 серыя.
**13.00** «Ратаўнікі», серыял: 7 серыя.
**13.45** «Машына зменаў», тэлесерыял: 3 серыя.
**14.15** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**14.40** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**14.55** Хто ёсць кім?: «Алесь Сураў – непакорны мастак».
**15.15** Два на два (тэледыскусія).
**15.40** Без рэтушы: «Малельнікі за ўвесь свет», рэпартаж, 2011 г., Беларусь.
**16.00** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл: 3 серыя.
**16.10** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**16.25** Невядомая Беларусь: «Код прысутнасці», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**17.00** «Школа на санцапёку», серыял: 5 серыя.
**17.25** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**17.30** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Браты-ворагі», дак. серыял: «Бунтарка ды арыстакратка».
**18.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**18.40** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 13 серыя.
**19.30** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.40** Гарачы каментар (публіцыстычная праграма).
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.25** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.50** «Справа Фэрўэла», дак. фільм, 2009 г., Францыя: ч. 2, «Шпіён веку».
**22.45** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 8 серыя.
**23.30** Аб'ектыў.
**23.55** Гарачы каментар.

## 19 ЛЮТАГА, НЯДЗЕЛЯ

**БЕЛАРУСЬ 1**

**07.00** Камедыя «Бітва Мэры Кэй» (ЗША-Канада).
**08.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Медычныя таямніцы.
**10.15** Да цешчы на бліны.
**10.50** Серыял «Сваты» (Украіна).
**12.10** Камедыйная меладрама «Чалавек-амфібія» (СССР).
**14.05** Мультфільм «Бег мышаня па траве» («Беларусьфільм»).
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Відэафільм АТН «Нараўлянская быль» цыклу «Зямля беларуская».
**15.45** Дакументальны фільм «Навука прывабнасці» (ЗША).
**16.35** Прыгодніцкі фільм «Палёт навігатара» (ЗША-Нарвегія).
**18.15** Суперлато.
**19.05** Меладрама «Добры дзень Вам!» (Украіна).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** «Еўрафэст». Відэадзённік.
**22.10** Гістарычная драма «Герцагіня» (Вялікабрытанія-Італія).

**ОНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.55** «Шалапутныя нататкі».
**10.15** Пакуль усе дома.
**11.10** Фазэнда.
**11.45** АНТ прадстаўляе: «Брэйн рынг».
**12.45** Фільм «Вышыня».
**14.25** Фільм «3 жыцця адпачываючых».
**16.00** Нашы навіны (з субытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Ералаш.
**16.40** Прэм'ера. «Растрэльная справа дырэктара Сакалова».
**17.40** АНТ прадстаўляе: «Эстрадны канктэйль».
**18.50** Прэм'ера. «У чорным-чорным пакоі…».
**20.00** Контуры.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Дыханне планеты».
**21.40** Прэм'ера. «Дзве зоркі».
**23.10** Драма «Кроў і шакалад».

**СТВ**

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.25** «Салдаты-13». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Відавочнік прадстаўляе: самае смешнае».
**10.10** «Вялікі сняданак».
**10.50** Фільм «Рэкрут». ЗША, 2002 г.
**12.55** «Добры дзень, доктар».
**13.25** Фільм «Вялікая змена». СССР, 1972 г. 3 і 4 серыі.
**15.45** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Праўда».
**17.30** Канцэрт М.Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Дзённікі няні». ЗША, 2007 г.
**22.40** «Прафесійны бокс».
**23.40** Фільм «Валізкі Тульса Люпера». Расія-Германія-Вялікабрытанія-Нідэрланды-Іспанія-Люксембург, 2003 г.

**БЕЛАРУСЬ 2**

**07.10** Размова са Святаром.
**07.20** Прыступкі Веры.
**07.35** Таямніца душы.
**08.05** Кожны мае права быць розным.
**08.30** «Смех з дастаўкай на дом». Гумарыстычная праграма.
**09.45** «Кімчхі - фірмовая карэйская страва». Дакументальны фільм (Рэспубліка Карэя).
**10.15** Тэлебарометр.
**10.20** Гаспадар.
**10.50** Школа рамонту.
**11.55** Вышэй за дах.
**12.30** Шоў «Інтуіцыя».
**13.35** Бухта капітанаў.
**14.15** Камедыйны баявік «Белае сонца пустэльні» (СССР).
**16.00** Кінаспробы.
**16.55** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**19.30** Гандбол. Кубак уладальнікаў Кубкаў.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Навіны надвор'я.
**21.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**22.15** Спорт-кадр.
**22.55** Драма «Жыццё гэтага хлопца» (ЗША).
**00.50** Шоў «Інтуіцыя».

**ЛАД**

**05.00** Д/ф «Галоўны інжынер савецкага саюза».
**06.05, 02.55** М/ф «Сільва».
**07.50** М/с «Прыгоды Мумі Троля».
**08.15** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**08.30** «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**08.45** «Эксперыментатары».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Ведаем рускую».
**10.10** «Даведнік».
**10.40** Т/с «Агенцтва «Залатая куля».
**13.30** Д/с «Доказы віны».
**14.00** «Правілы жыцця».
**15.10** Канцэрт «Вярніце мне музыку».
**16.20, 04.25** «Простыя лікі».
**17.00** Т/с «Каханне і іншыя дурасці».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.00** М/ф «За двума зайцамі».
**22.25** «Паўночнікі».
**22.55** М/ф «Ворагі».
**00.25** М/ф «Уладар мух».
**02.05** «Навіны садружнасці. Культура».

**DISCOVERY CHANNEL**

**05.00, 05.25** Вокамгненныя катастрофы.
**05.55, 01.50** Лабараторыя выбухных ідэй.
**06.50, 12.20, 19.00, 00.55** Разбуральнікі легенд.
**07.45, 02.45** Як гэта ўладкавана?
**08.10** Як гэта зроблена?
**08.40** Залатая ліхаманка.
**09.35** Вугаль.
**10.30** Выжыць разам.
**11.25** Ці магчыма гэта?
**13.15** Скрыўленне часу.
**14.10** Будаўнічая дапамога.
**15.05** Выжыць любым коштам.
**16.00, 17.00, 18.00, 20.00** Хлопцы з гармату.
**21.00** Нічога асабістага.
**22.00** Рос Кемп.
**23.00** Мяжа трываласці.
**00.00** Рачныя монстры.
**03.10** Марскі горад.
**04.05** Грандыёзныя пераезды.

**EUROSPORT**

**10.00, 12.45** Горныя лыжы. Кубак свету. Жанчыны. Слалам/камбінацыя. Сочы.
**11.00** Горныя лыжы. Кубак свету. Мужчыны. Слалам. Спроба 1.
**12.00** Лыжнае дваяборства. Кубак свету. HS 140. Клігенталь.
**14.00** Горныя лыжы. Кубак свету. Мужчыны. Слалам. Спроба 2.
**15.00** Лыжнае дваяборства. Кубак свету. Гонка па сістэме Гундэрсена. Клігенталь.
**15.45, 01.00** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. Камандныя спаборніцтвы. HS 212.Оберстдорф.
**17.30, 21.00, 22.00, 02.15** Снукер. Адкрыты чэмпіянат Уэльса. Фінал.
**19.30** Тэніс. Турнір WTA. Даха. Фінал.

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**07.45** «Доктар Марцін», серыял: 13 серыя.
**08.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.45** Калыханка для самых маленькіх.
**09.15** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**09.25** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.50** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.15** Сальда (эканамічная праграма).
**10.30** МакраФон: XIV Фестываль песеннай паэзіі і аўтарскай песні «Бардаўская восень–2007»: выступ Змітра Вайцюшкевіча з «WZ-аркестрам»: ч. 1.
**11.00** Два на два (тэледыскусія).
**11.30** МакраФон: XIV Фестываль песеннай паэзіі і аўтарскай песні «Бардаўская восень–2007»: выступ Змітра Вайцюшкевіча з «WZ-аркестрам»: ч. 2.
**12.00** «Чарнобыль для Еўропы», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**12.30** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл: 3 серыя.
**12.45** «Тэра постсаветыка. Габрэі ў Адэсе», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**13.10** Калыханка для самых маленькіх.
**13.40** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**13.55** «Рэнэ», дак. фільм, 2009 г., Чэхія.
**15.00** «Кроўны брат», маст. фільм, 2001 г., ЗША.
**16.40** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.00** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**17.15** «Час гонару», серыял.
**18.05** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**18.25** Два на два (тэледыскусія).
**18.55** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 10 серыя.
**19.20** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**19.30** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.40** Калыханка для самых маленькіх.
**19.50** Дакументальная гадзіна: «Палітычныя забойствы», дак. фільм, 2005 г.
**20.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**22.15** Фільматэка майстроў: «Дзеці славы», маст. фільм, 2006 г., Венгрыя–ЗША.
**00.10** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).
**00.20** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**01.00** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57, Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

### Паважаныя чытачы!

З новага 2012 года мы вымушаны ўзняць падпісны кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй, вам, за рзуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл.: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

ЦІКАВА

# НАШ ЧАЛАВЕК У КАРАКАСЕ

Алег НОВІКАЎ

**У Венесуэле пачынаецца прэзідэнцкая кампанія. Не выключана, што выклік Чавесу кіне далёкі нашчадак беларускага яўрэя.**


Пабла Перэс


Энрыке Капрылес Радонскі

Канчаткова ўсё вызначыцца 12 лютага, калі аб'яднаная апазіцыя прагаласуе за адзінага кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах гэтага года. З самага пачатку працэсу праймерыз усур'ёз разглядаліся толькі тры кандыдатуры: губернатары Энрыке Капрылес Радонскі і Пабла Перэс, канкурэнцыю якім складала дэпутат Марыя Мачада, якая арыентуецца на каталіцкі электарат.

Аднак нечакана за тыдзень да выбараў яўным фаварытам стаў Энрыке Капрылес Радонскі. Пра такі вектар падзей пачалі казаць пасля таго, як на яго бок стаў аўтарытэтны ў апазіцыйных колах палітык Леапольд Лопес. Аўтарытэтная іспанская газета «El Pais» яшчэ 24 студзеня запісала Радонскага ў пераможцы праймерыз.

Прозвішча «Радонскі» гучыць дысанансам на фоне іншых лацінаамерыканскіх прозвішчаў і ўжо кажа пра сувязь венесуэльскага апазіцыянера са славянскімі рэгіёнамі. Сапраўды, продкі Энрыке, як гаворыцца ў яго біяграфіі, былі «рускія яўрэі», якія пасяліліся ў Польшчы перад Першай сусветнай вайной. Тое, што ў зону яўрэйскай аселасці Расія ніколі не ўваходзіла, у адрозненні ад Беларусі, дае падставу для версіі: вызначэнне «рускі яўрэй» адносіцца хутчэй да нашых краёў.

Так ці інакш, менавіта ў Польшчы нарадзіўся дзед цяперашняга губернатара Міранды. Дзякуючы таму, што ў час Другой сусветнай вайны ён змагаўся ў антыфашысцкім падполлі, яму пашанцавала не стаць ахвярай Халакосту. Больш таго, ён нават арганізаваў пабег сваёй жонкі з Варшаўскага гета. Пасля вайны абодва эмігравалі ў Венесуэлу, дзе пачалі працаваць у сферы кінематаграфіі і з часам разбагацелі. Тут жа, у Венесуэле, нарадзілася Моніка Крысціна Радонскі — маці Энрыке. Яго бацька — этнічны галандзец.


Марыя Мачада

Капрылес Радонскі прыйшоў у палітыку адначасова з Чавесам напрыканцы 1990-х гадоў, аднак з самага пачатку яны знаходзіліся па розныя бакі ідэйных барыкад. У адрозненне ад левага рэфарміста Чавеса, Радонскі блізкі па поглядах да хрысціянскіх дэмакратаў. З часам ён зрабіў сапраўдную кар'еру: закончыўшы шэраг прэстыжных універсітэтаў па спецыяльнасці юрыста, у 39 гадоў узначаліў трохмільённы штат Міранда. Цяпер яго лічаць заўтрашнім днём усёй апазіцыі. Энрыке Капрылес Радонскі — адзін з нешматлікіх правых палітыкаў, які здолеў перамагчы апанентаў-чавістаў у бедных прыгарадах, прычым падчас двух выбарчых кампаній запар.

Электаральныя канфузы чавістаў у Мірандзе спрыялі таму, што супраць яе губернатара даўно вядзецца прапагандысцкая кампанія. Чамусьці яе арганізатары малююць Радонскага як сіяніста і нацыста. Сіяніст — яшчэ зразумела. Хаця сям'я Радонскага ў 1950-я прыняла каталіцызм. А вось абразу «нацыст» Энрыке не прабачыў. Яго прапрадзед і прабабка былі забітыя нацыстамі ў канцлагеры Трэблінка. Па яго словах, менавіта гэты выпад прымусіў яго балатавацца на пасаду галоўнага праціўніка Чавеса.

Якія шанцы ў Радонскага пасунуць Чавеса з пасады прэзідэнта, якую той займае ўжо 14 гадоў? Адназначнага адказу быць не можа. Калі меркаваць па дэбатах унутры венесуэльскай апазіцыі, фармат кампаніі 2012 будзе мала адрозніваецца ад папярэдніх выбараў. Зноў у цэнтры крытыкі курса Уга будуць знаходзіцца пытанні паўсядзённай бяспекі і карупцыі.

Каб зразумець маштаб праблемы бяспекі ў краіне, польскі часопіс «Polityka» зрабіў невялікую падборку матэрыялаў паліцэйскай хронікі са звычайнага сталічнага раёну El Paraiso. Вось рапарт толькі за адзін дзень. «Нівес Лопес (53 гады) быў забіты ў перастрэлцы паміж двума злачынцамі, які не падзялілі грошы, што скралі з банкамату. Ёрдан Рывера, 15-гадовы вучань ліцэю, атрымаў кулю ў галаву пасярод вуліцы. Родныя лічаць, што Ёрдана забілі аднагодкі з клану, які забівае любога, хто не з іх кварталу».

У гэтым плане сярод венесуэльцаў папулярны анекдот: «Ад чаго можа памерці Уга Чавес? — Ад страху выйсці на вуліцы гораду».

Небяспечная крымінальная абстаноўка звязаная з маштабамі карупцыі. Як прызнае Тарэк Эль Аісамі, дырэктар МУС, 15–20 працэнтаў злачынстваў у краіне робяцца пад прыкрыццём або з непасрэдным супрацоўнікаў яго ведамства.

На такую крытыку апазіцыі ў Чавеса свае аргументы. Улады напярэдадні выбараў абавязкова згадваюць усе сацыяльныя прарывы эпохі Чавеса: бясплатная адукацыя і медыцына, гарантаваны бясплатны прадуктовы пакет з 18 артыкулаў, уключаючы мяса, спробы вырашэння кватэрнага пытання для жыхароў barrios (так называюць у Венесуэле бедныя прыгарады). Год таму ўрад пачаў праграму Gran Misiyn Vivienda Venezuela, у рамках якой плануецца пабудаваць на працягу 6 гадоў мільён сацыяльных кватэр. Усе дадзеныя сацыёлагаў паказваюць, што ўпершыню за гісторыю краіны людзі перасталі разглядаць дзяржаву як варожы інстытут. Нярэдка можна пачуць, як венесуэльцы на памяць цытуюць фрагменты канстытуцыі ў доказ сваіх правоў.

Як красамоўна паказваюць вынікі папярэдніх выбараў, пастаўлены перад дылемай: «бяспека» або «сацыялка», венесуэльскі выбаршчык абірае апошняе. Іншымі словамі, рэжым Чавеса.

Аднак на гэты раз у апазіцыі з'явіўся адзін козыр — падвешаны стан здароўя Уга. Як вядома, у чэрвені мінулага года ён прызнаўся, што хворы на рак. Пазней, пасля серыі аперацыі і курса лячэння на Кубе, прэзідэнт заявіў, што, наадварот, здаровы як бык. Аднак дастаткова пакапацца на венесуэльскіх сайтах, каб зразумець, што канчаткова тэма раку не знікла. Хапае тых, хто лічыць, што Чавес хавае праўду. Гэта выклікае рознага кшталту спекуляцыі і плёткі, які спараджаюць страх за будучыню. У выпадку магчымага абвастрэння праблемы здароўя правадыра Баліварскай рэвалюцыі, як мінімум тры фракцыі ў яго атачэнні будуць прэтэндаваць на вакантнае лідарства. Найбольш абывацель баіцца прыходу ў палац Мірафлорэс (прэзідэнцкая адміністрацыя) былога вайскоўца Дзіясдада Кабела, які зарэкамендаваў сябе як прыхільнік моцнай рукі.

Яшчэ адзін козыр апазіцыі — маладосць Радонскага. «У мяне ёсць энергія, якой няма ў Чавеса», — кажа губернатар Міранды, якому толькі ў ліпені будзе 40 гадоў. Калі меркаваць па прэсе, гэты аспект сапраўды падабаецца шматлікім выбарцам, асабліва маладым.

У любым выпадку, хочацца бачыць Капрылеса Радонскага на чале венесуэльскай апазіцыі. Гэта была б сапраўдная іронія гісторыі, калі праціўнікам лідара самага ідэйна блізкага Беларусі палітычнага рэжыму быў бы выхадзец з Беларусі.

Выбары прэзідэнта ў Венесуэле адбудуцца 7 кастрычніка.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Беларускі ўрад разлічвае не толькі выканаць прыватызацыйныя планы цяперашняга года, але і давыканаць планы папярэдняга. Апаненты ўлады сумняваюцца і ў мэтазгоднасці продажу ў перыяд крызісу, і ў жаданні фундатараў з далёкага замежжа ўкласці грошы ў нестабільную беларускую эканоміку. Затое ўсё згодныя з тым, што для расійскага капіталу ў паслабленай беларускай эканоміцы хуткім часам можа загарэцца зялёнае святло.

**«Независимая газета», (Расія)**

Сакральная лічба 500, якую беларускія чыноўнікі па нейкіх толькі ім вядомых прычынах лічаць годнай заработнай платай, наўрад ці стане дасягальнай не толькі ў 2012 годзе, але і ў будучыні. У падобных умовах разлічваць на тое, што Расія, у планах якой вызначаюцца сур'ёзныя сацыяльныя, эканамічныя, нацыянальныя, культурныя і палітычныя пераўтварэнні, будзе і далей цягнуць на сабе далёка адсталую ад сваіх партнёраў па АЭП Беларусь, не варта. Не варта чакаць ад Расіі таго, чаго сёння яна не ў стане даць Беларусі. Адраджаць «беларускі цуд» беларусам давядзецца самім.

**REGNUM (Расія)**

Палітыка Лукашэнкі — хаваць галаву ў пясок — зразумелая: немагчыма ўявіць, што адбудзецца, калі ўпадзе рэжым у Маскве! Адкуль тады ён будзе атрымліваць мільярды долараў, якія ўтрымліваюць яго эканоміку? Беларусь можа перадыхнуць. Дзякуючы дапамозе з Расіі, яна можа ў кароткія тэрміны не толькі папоўніць валютныя рэзервы, але і паменшыць дэфіцыт гандлёвага балансу. Але тое, што так хутка прынесла часовую палёгку, утойвае ў сабе небяспеку. Яна, у прыватнасці, заключаецца ў тым, што ўзмацняецца аднабаковая залежнасць ад Расіі. А правядзенне тэрмінова неабходных структурных рэформаў зноў адкладаецца.

**«Die Welt» (Германія)**

Адны лічаць, што з-за міжнароднага ціску Лукашэнка вымушаны будзе памілаваць Кавалёва і Канавалава. Іншыя — што яму выгодна іх пакараць смерцю, каб «зачыніць справу» раз і назаўсёды. Баюся, апошнія маюць рацыю. Тым больш, што Лукашэнка страшна баіцца выглядаць слабаком, на якога можна пасяхова ціснуць. У сітуацыю магла б умяшацца Расія. Але яна, па традыцыі, аддае перавагу маўчанню і не трывожыць спакой беларускага дыктатара — ён жа партнёр па Саюзнай дзяржаве і галоўны даўжнік Расіі. Калі-небудзь, калі Аляксандр Рыгоравіч перастане быць прэзідэнтам, таемнае стане вядомым. Тады мы даведаемся, куды згінулі без весткі ў 1990-я гады лідары апазіцыі і што таямнічыя выбухатэхнікі рабілі ў мінскім метро. Выратаваць Канавалава і Кавалёва сёння — значыць пакінуць шанец у будучыні правесці сапраўднае расследаванне гэтай таямнічай трагедыі.

**РБК (Расія)**

У Беларусі, якая прытуліла Бакіева, эканоміка перажывае небывалыя цяжкасці, і незадаволенасць народа на адрас Лукашэнка ўзмацняецца. З прычыны гэтага ці па іншых чынніках беларускі бацька адмовіўся ўтрымліваць Бакіева і ветліва выправадзіў таго за дзверы дзяржаўнай рэзідэнцыі, у якой той жыў больш за год.

**«Gezitter» (Кіргізія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. ПРЫХІЛЬНІКАМ АСАДА АБВЯСЦІЛІ ДЖЫХАД




Пасля таго, як Расія і Кітай заблакавалі ў Савеце бяспекі ААН «сірыйскі сцэнар», прадстаўнікі сірыйскай апазіцыі, якія пражываюць у Расіі, абвясцілі джыхад сябрам грамадскіх арганізацый, якія выступаюць супраць знешняга ўмяшання ў справы Сірыі. Некаторыя з сяброў Асада ўжо атрымалі адпаведныя «чорныя меткі» ў выглядзе лістоў. У іх тэкстах гаворыцца, што «па прамым загадзе» Крамля ў Сірыі «на гэту гадзіну знішчана 12 000 чалавек, праз турмы прайшло 100 тысяч чалавек, разбураны гарады, закатаваны дзеці». З гэтай нагоды адрасатам лістоў абвяшчаецца «джыхад». Што стаіць за гэтым словам, у дадзенай канкрэтнай сітуацыі дакладна зразумець цяжка. Аднак грамадскія арганізацыі, актывісты якіх атрымалі лісты з пагрозамі, маюць намер звярнуцца ў праваахоўныя органы.

**Паводле расійскай блогасферы**

### ПОЛЬШЧА. УЛЬТРАПРАВЫЯ ЗА СУПРАЦОЎНІЦТВА З ЛУКАШЭНКАМ

Па-за фокусам буйных СМІ засталася адна цікавая падзея: 7 студзеня ў Польшчы мела месца агульнанацыянальная акцыя ў падтрымку дыялогу Польшчы і Беларусі. Яе арганізатарам выступіла ўльтраправая групоўка Falanga. Калі сыходзіць з тэксту плакатаў, якія фалангісты вывешвалі на вуліцах польскіх гарадоў, добрым адносінам паміж нашымі народамі перашкаджае «ліберальная ідэалогія». Галоўнымі аб'ектамі кампаніі сталі будынкі арганізацыяй, якія займаюцца «беларускім пытаннем» накшталт фонду імя Стэфана Баторыя або выдавецтва «Agora SA», на базе якога друкуецца ліберальная «Gazeta Wyborcza». Сайт групоўкі інфармуе, што гэта толькі этап доўгай кампаніі салідарнасці з афіцыйным Мінскам. Сапраўды, у снежні мінулага года ў Кракаве фалангісты спрабавалі сарваць арганізаваны праваабаронцамі паказ фільму пра палітычную сітуацыю ў Беларусі.

**Паводле польскай прэсы**

### НІДЭРЛАНДЫ. ПРАБЛЕМА САБАК – У ЦЭНТРЫ ДЭБАТАЎ




У Гаазе варта ўвесці забарону на валоданне сабакамі. Такую заяву зрабіў дэпутат гарадскога савету ад партыі «Ісламскія дэмакраты». Па меркаванню прадстаўніка мусульманскай партыі, утрыманне сабак у хаце з'яўляецца ні чым іншым, як жорсткім абыходжаннем з нашымі сябрамі меншымі. «Сабакі павінны жыць у прыродных умовах, а не ў хатах», — кажа дэпутат. Утрыманне сабакі ў горадзе, адпаведна яго пункту гледжання, павінна караецца штрафам. Аднак большасць сяброў савету прагаласавалі супраць такой прапановы. Больш таго, савет выказаўся на карысць праекту ад фракцыі Партыі аховы жывёл, якая прапанавала аказваць грашовую падтрымку ўладальнікам сабак. На думку шмат каго, дэпутаты заблакавалі прапанову ісламскіх дэмакратаў, паколькі пабаяліся, што за ёй стаіць рэлігійны падтэкст. Шматлікія мусульмане лічаць сабак нячыстымі жывёламі.

**Паводле нідэрландскай прэсы**

### ЗША. ДВУХМОЎНЫЯ БЮЛЕТЭНІ ЗАБАРОНЯЦЬ

Здаецца, рэспубліканцы прыдумалі, як можна перамагчы Абаму. Для гэтага, на іх думку, сярод іншага трэба забараніць двухмоўныя бюлетэні для галасавання. За гэта выступілі Ньют Гінгрыч і Міт Ромні — фаварыты гонкі на абранне ў якасці кандыдата ад партыі «сланоў». Для даведкі: у адпаведнасці з Актам аб правах выбаршчыка ад 1975 года, лакальная выбарчая камісія можа замовіць двухмоўныя бюлетэні. Галоўным чынам гэтым скарысталіся выхадцы з Лацінскай Амерыкі. Тэма двухмоўных бюлетэняў амаль адсутнічала ў палітычных дэбатах, аднак цяпер у гэтай галіне з ініцыятывы рэспубліканцаў магчымыя рэформы. Яе наступствы, на думку экспертаў, могуць сапраўды выклікаць разгубленасць сярод той часткі іспанскамоўных выбаршчыкаў, якія практычна не гавораць па-англійску, што можа паменшыць іх удзел у выбарах. Гэта будзе перш за ўсё тысяча дыяспар з Пуэрта-Рыка і Дамініканскай рэспублікі, якія звычайна падтрымліваюць дэмакратаў.

**Паводле амерыканскай прэсы**

ВЫБАРЫ

# НАЦЫЯНАЛІЗМ ПА-ПУЦІНСКУ

**Алег НОВІКАЎ**

**Вялікі рэзананс у расійскім палітыкуме і экспертным грамадстве выклікаў артыкул Уладзіміра Пуціна, у якім ён падзяліўся магічнай формулай, як выратаваць Расію ад развалу.**




Матэрыял пад назвай «Расія — нацыянальнае пытанне» з'явіўся ў «Независимой газете» 23 студзеня. Тое, што Пуцін закрануў гэтую праблему, цалкам слушна: у краіне пражываюць 165 нацый і існуе 26 нацыянальных аўтаномных адзінак. Тым больш на двары выбарчая кампанія, адна з галоўных тэм якой — праблема інтэграцыі ў соцыум прадстаўнікоў малых, перш за ўсё каўказскіх, народаў і імігрантаў. У дадатак назіраецца рост нацыянальнай свядомасці сярод этнічных рускіх, якія нават не супраць адмовіцца ад каланіяльных захопаў іх прадзедаў — адпусціць некаторыя рэгіёны, напрыклад паўночны Каўказ, на волю.

Увесь гэты клубок пытанняў кандыдат «Адзінай Расіі» прапануе вырашыць за кошт новага падыходу да нацыянальнага пытання і шэрагу прапанаваных ім практычных мер. Пуцін абвясціў, што Расія — гэта ўнікальная дзяржава-цывілізацыя (не нацыя!). Яна адрозніваецца і ад Еўропы, са сваёй няўдалай палітыкай мультыкультуралізму і талерантнасці, і ад ЗША, якія знішчылі практычна ўсё сваё карэннае насельніцтва, а перасяленыя этнасы пераплавілі ў «агні плавільнага катла». Ідэнтычнасць народаў, па Пуціну, трэба захаваць. Ён піша: «У адрозненне ад іншых краін, Расія на сваім гістарычным прыкладзе паказала, што яе рускае ядро можа прымаць у сябе іншыя народы і не растварацца, тым больш не знішчаць іх».

За тое, што іх не знішчылі, нацмены павінны паважаць і ведаць так званы «культурны стрыжань» — рускую культуру. Галоўны адзінарос кажа пра абавязковае валоданне рускай мовай, веданне яе гісторыі. А каб стымуляваць інтарэс да рускай мовы, Пуціна прапанаваў узмацніць жорсткасць міграцыйнага заканадаўства — прымушаць імігрантаў вывучаць мову Пушкіна і Лермантава. Плюс чакаецца больш суровая адказнасць за парушэнне правіл рэгістрацыі.

Тэзісы публікацыі ў «Независимой газете» трапілі ў яблык. Так маркуюць сістэмныя палітыкі. Прычым, як ні парадаксальна, яны хваляць Пуцін з самых супрацьлеглых полюсаў.

Напрыклад, «кішэнны» рускі патрыёт, лідар Кангрэсу рускіх абшчын Дзмітрый Рагозін заяўляе: «Пуцін вывеў рускае пытанне з падполля. З гэтага часу казаць пра рускія правы і праблемы ўжо не будзе лічыцца чымсьці крамольным і непрыстойным. А яго артыкул — доказ таго, што рускі патрыятычны рух павінен смела інтэгравацца ва ўладу і вучыцца кіраванню такім складаным арганізмам, як расійская дзяржава».

А вось вертыкаль у аўтаномных рэспубліках, наадварот, пабачыла ў артыкуле не «выхад рускага пытання з падполля», а «зялёны свет» для пашырэння правоў і захавання самабытнасці малых народаў. «Дагестанская правда» (орган адміністрацыі аўтаноміі) адзначае: «Ён (артыкул), грунтуючыся на супольнасці агульназначных каштоўнасцяў, улічвае не толькі інтарэсы ўсёй краіны, але і інтарэсы, запыты, клопаты кожнага этнасу».

Такі дысананс падыходаў тлумачыцца сэнсавымі супярэчнасцямі пуцінскага маніфесту. Калі той жа чачэнец хоча ўсур'ёз пагрузіцца ў рускую культурную матрыцу, ён, відавочна, мусіць добра ведаць праваслаўны канон, весці стандартны рускі лад жыцця, перайсці на новую спажывецкую этыку. Што гэта, як не амерыканскі плавільны кацёл? Аднак пры гэтым ён адначасова павінен захоўваць свае культурныя традыцыі. Іншымі словамі, гаворка пра тую ж ненавісную еўрапейскую мультыкультурнасць.

Недавер да тэзісаў артыкулу яшчэ больш узмацняецца тым фактам, што «маніфест» з'явіўся фактычна на 12-годзе знаходжання ва ўладзе «пуцінскага» клану. Чаму б ні рэалізаваць такі геніяльны план раней? На гэта звяртаюць увагу рускія нацыяналістычныя цэнтры, якія ў дадатак лічаць, што Расія павінна цалкам адмовіцца ад федэратыўнага прынцыпу дзяржаўнага ладу.

«Лічыць, што Пуцін выканаў патрабаванні рускіх нацыяналістаў, на словах прызнаўшы рускі народ дзяржаўнай асновай, не магчыма. Па-першае, у адрозненне ад артыкула Сталіна, артыкул Пуціна — гэта не палітычная ўстаноўка. Гэта проста словы палітыка, каштоўнасць якіх за апошнія дзесяцігоддзі ляснулася ніжэй нуля. Тэза пра тое, што дзяржаўнай місія рускага народа палягала быццам у тым, каб адмовіцца ад сваёй нацыянальнай дзяржавы і будаваць шматнацыянальную, для рускіх нацыяналістаў непрымальная» (АПН).

Дадатковы момант сумнявацца ў тым, што Пуцін сур'ёзна вырашае нешта рэфармаваць, — ідэя стварэння «калегіяльнага органа», які будзе курыраваць міжнацыянальныя праблемы пры прэзідэнце. Справа ў тым, што падобны дэпартамент — Міністэрства нацыянальнасцяў — ужо існаваў у 1990-я і быў ліквідаваны за неэфектыўнасць.

«Можна задацца пытаннем, па якому прынцыпу фармаваць гэты «калегіяльны орган». «Калі ў яго сабраць нават па адным прадстаўніку ад кожнай з 165 нацыянальнасцяў Расіі, то атрымаецца, што інтарэсы 80-мільённага рускага народа ў нацыянальнай палітыцы будзе выяўляць 1 чалавек, таксама як і інтарэсы 482 расійскіх алеутаў. Такая ўраўнілаўка не зможа гарантаваць эфектыўнасць нацыянальнай палітыкі», — піша агенцтва «Рэгнум».

Нарэшце, пуцінская ідэя азначае рэвізію старой схемы супрацоўніцтва рэгіёнаў і цэнтру па нацыянальна-культурных пытаннях, што тэхнічна складана. Так, казанскі грамадзянскі цэнтр, які змагаецца супраць пашырэння выкладання татарскай мовы ў школах Татарстана, сцвярджае: «Федэральны цэнтр адмаўляецца ўмешвацца ў спрэчныя культурныя пытанні, якія ўзнікаюць у нацыянальных рэспубліках, вяртаючы іх на разгляд у рэгіёны».

У выніку заяўленая Уладзімірам Пуціным ініцыятыва па фармаванні новай нацыянальнай палітыкі не знайшла агульнай падтрымкі і нават супольнага меркавання пра яе. Асцярожнаму стаўленню да пуцінскага плана спрыяла дадатковая акалічнасць. Як высветлілі журналісты, трэцяя частка артыкула Пуціна з'яўляецца папросту даслоўным пераказам так званага «Праекта развіцця полікультурнай адукацыі ў РФ» — манаграфіі трох маскоўскіх навукоўцаў, напісанай у пазамінулым годзе. Адтуль і ўзяты ўвесь гэты «культуралагічны» слоўнік пра «стрыжні» і «плавільныя катлы». Калі «гістарычны» маніфест з'яўляецца плагіятам, на хуткую руку перапісаным спічрайтарамі, сур'ёзна абмяркоўваць яго не даводзіцца.

Аднак нельга казаць, што артыкул не меў канкрэтных практычных наступстваў. Адразу пасля яго публікацыі з'явілася ініцыятыва кіраўніка федэратыўнай міграцыйнай службы аб абвяшчэнні людзей у крымінальны вышук за працяглае пражыванне не па месцы прапіскі. І гэта яшчэ не фінал.

Намеснік старшыні Дзярждумы, кіраўнік Вышэйшага Савету ЛДПР Ігар Лебедзеў заклікаў да стварэння спецыяльных адаптацыйных школ для вучняў — прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў, дзе яны будуць вучыцца, як быць рускімі.

КІНО

# ВЯРТАННЕ ПІТОНАЎ

Алег НОВІКАЎ



**Стваральнікі самага смешнага фільму ў гісторыі кіно аб'ядналіся, каб зняць новы шэдэўр. Гаворка пра сяброў групы «Монці Пайтан».**

Гісторыя мастацтва ведае шмат прыкладаў паспяховых калектыўных праектаў. І вельмі часта гэтыя калектывы развальваліся, асуджаючы іх фанатаў спадзявацца на іх магчымае ўз'яднанне. З групай «The Beatles» так, на жаль, не атрымалася. А вось прыхільнікам гумару пашанцавала — 12 студзеня сябры трупы «Монці Пайтан» абвясцілі пра намер сабрацца і зняць новы фільм.

«Монці Пайтан» (Monty Python) перакладаецца як «Горны пітон» — гэта славутая комік-група з шасці чалавек. Пяць брытанцаў і адзін амерыканец. Брытанцы Джон Кліз (нар.: 1939), Тэры Джонс (нар.: 1942), Эрык Айдл (нар.: 1943), Майкл Пэйлін (нар.: 1943). Таксама ў групе быў Грэм Чэпмен (1941–1989), які памер ад СНІДу. І амерыканец Тэры Гіліам.

Выступаць у якасці акцёраў і аўтараў скетчаў будучыя «пітоны» пачалі яшчэ ў студэнцкія гады. Пры гэтым кожнага з іх чакала бліскучая кар'ера ў зусім не звязаных з гумарам галінах. Усе яны, за выключэннем амерыканца Тэры Гіліама, скончылі Кембрыдж і Оксфард і маглі б дасягнуць поспеху па асноўных сваіх прафесіях. Але падчас вучобы кожны з іх зразумеў, што сцэна прыцягвае іх значна больш, чым адвакацкая кантора ці кабінет лекара.

Група набыла сусветную вядомасць дзякуючы свайму тэлешоў «Лятучы цырк Монці Пайтана», які выходзіў на канале BBC у 1969–1974 гадах.

Тэлевізійная перадача зрабіла рэвалюцыю ў свеце гумару. Яе аўтары адмовіліся ад усіх існуючых на той момант клішэ, вынайшлі ўласную ўнікальную канцэпцыю. Эксцэнтрычны абсурдны гумар,

**Выступаць у якасці акцёраў і аўтараў скетчаў будучыя «пітоны» пачалі яшчэ ў студэнцкія гады. Пры гэтым кожнага з іх чакала бліскучая кар'ера ў зусім не звязаных з гумарам галінах**

неардынарная анімацыя, максімальна непаліткарэктная сатыра, парушэнне ўсіх табу — усё гэта хутка стала адметнымі знакамі «пітонаўскага» шоў.

Вось кароткія ідэі некаторых «пітонаўскіх» скетчаў: трэнер у спартзале праводзіць заняткі, як абараняцца, калі на вас нападаюць з садавінай; гандляр, што прадаў пакупніку мёртвага папугая, запэўнівае таго, што птушка не мёртвая: проста яна нарвежац; брытанская армія выкарыстоўвае супраць фашыстаў самы смешны ў гісторыі анекдот, у выніку чаго праціўнік памірае ад смеху.

Тэры Гіліам распавядаў, што «пітоны» планавалі ў адным са скетчаў цалкам адключыць гукавое суправаджэнне, каб гледачы пачалі круціць ручку гучнасці на максімум. У гэты час планавалася раптам вярнуць гук на арыгінальны ўзровень. Уся Англія, па разліках сатырыкаў, павінна была адначасова ад моцнага гуку падскочыць метра на паўтара.

Зразумела, што цэнзура BBC прапускала далёка не ўсе жарты «пітонаў». Аднак і тых скетчаў, якія «выкывалі» ў фільтры цэнзараў, хапала для таго, каб «Монці Пайтан» хутка заслужылі тытул самай смешнай брытанскай камічнай трупы.

Серыял вытрымаў чатыры сезоны (45 серый), а потым быў зачынены. Але гэта быў толькі пралог. Сапраўдны поспех «пітонам» прынеслі пяць поўнаметражных фільмаў.

У якасці асновы для першага фільма была ўзятая эпічная легенда пра падарожжа караля Артура «Монці Пайтан і святы Грааль». Апынуўшыся ў рыцарскай эпосе, «Монці Пайтан» высмеялі ўсё рыцарства і яго міфы.

Пры гэтым у аўтараў быў вельмі малы бюджэт, які складаў прыкладна чвэрць мільёна фунтаў — занадта мала для поўнаметражнага, прытым яшчэ і гістарычнага фільма. Нават тыя грошы былі атрыманыя ў якасці спонсарскіх унёскаў фанатаў, сярод якіх былі ўдзельнікі груп «Pink Floyd», «Led Zeppelin» і «The Beatles».

Фінансавыя ліміты прымушалі стваральнікаў выкручвацца, як толькі было магчыма. Так, для прыкладу, замест кальчуг выкарыстоўваліся світэры, пакрытыя срэбнай фарбай. А ўсе замкі, якія з'яўляюцца ў фільме, гэта адзін і той жа шатландскі замак Дун, проста зняты пад рознымі ракурсамі. Не было грошаў, каб набыць коней для рыцараў. Адсюль і ідэя грукаць какосамі — гук павінен быў імітаваць цокат конскіх капытоў. Практычна ўсе значныя ролі ў фільме былі выкананыя шасцёркай. Больш за ўсіх быў запатрабаваны Майкл Пэйлін, які пераўвасобіўся ў 9 (!) персанажаў.

І ўсе ж ніякія грашовыя і іншыя цяжкасці разам з несправакаванасцю не перашкодзілі (а часам нават парадаксальна гэтаму спрыялі) стварэнню сапраўды культавай стужкі.

Пасля была стужка «Жыццё Святога Брайна», якая прызнаная крытыкамі самай лепшай камедыяй у гісторыі. Славутыя «У джазе толькі дзяўчаты» (савецкая назва) толькі на пятым месцы. «Жыццё Святога Брайна» — фільм пра біблейскага бамжа, якога жыхары старажытнага Іерусаліма прымаюць за месію (чытай Ісуса Хрыста), з усімі вынікаючымі наступствамі. Сам жа Брайн марыць быць байцом Нацыянальнага фронту вызвалення Іудзеі. Праўда, Нацыянальны фронт вызвалення Іудзеі змагаецца не столькі з акупантамі-рымлянамі, колькі з канкурэнтамі з Народнага фронту вызвалення Іудзеі.

У шматлікіх краінах стужку забаранілі, пабачыўшы тут пародыю на евангелле. Сапраўды, як яшчэ хрысціяне маглі рэагаваць на скетч, дзе рымскі салдат раздае крыжы для асуджаных на распяцце, гаворачы пры гэтым: «Наступны! На распяцце? Добра. У тыя дзверы налева, становіцеся ў чаргу, бярыце адзін крыж… Наступны!»

Пасля таго, як у 1983 годзе выйшла карціна «Сэнс жыцця па Монці Пайтану», група распалася. Кожны з «пітонаў» пачаў працаваць самастойна. Нехта здымаў дакументальныя фільмы пра сярэднявечча, нехта рабіў медыцынскія кансультацыі, нехта проста пачаў шмат піць. Найбольшы поспех меў Тэры Гіліам, які падаўся ў рэжысёры. Некаторыя яго фільмы, напрыклад, «Страх і нянавісць у Лас-Вегасе» і «Бразілія», складаюць залаты фонд сусветнага кінематографа. Аднак нават Гіліам успрымаўся публікай як былы «пітон», які павінен вярнуцца ў сям'ю.

І вось усе зноў разам. Фільм «Абсалютна што заўгодна», які плануюць зняць «пітоны», мае шанцы стаць першым прадуктам аб'яднання трупы. Стужка будзе прысвечана групе іншапланецян, якія надзяляюць усемагутнасцю простага зямляніна, каб паглядзець, што з гэтага атрымаецца. Вядома, што ў галоўнай ролі будзе здымацца Робін Вільямс.

Застаецца спадзявацца на тое, што «Абсалютна што заўгодна» публіка сустрэне гэтак жа, як у свой час славуты «Грааль». Тады ў рэцэнзіях на фільм пісалі: «Калі фільм падыходзіць да канца, смяяцца ўжо папросту няма сіл: на вачах стаяць слёзы, рукі змакрэлі, голас ахрып, вусны, шчокі, жывот баляць. І сам ты ўжо даўно ляжыш дзесьці паміж тэлевізарам і крэслам — на падлозе… А фільм усё не канчаецца… І толькі і моліш Бога, каб ён хутчэй скончыўся, паколькі нават калі смех падаўжае жыццё, неўмяручасць яшчэ нікога не цешыла!»

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ЁРГ ШАЦЦЫМАРКАКІС



Дэпутат еўрапарламента ад нямецкай Свабоднай дэмакратычнай партыі (FDP) прапанаваў Грэцыі змяніць сваю афіцыйную назву і ў будучым называцца Элада. На думку палітыка, без змены назвы немагчыма разуменне таго, што «цяперашняя сістэма цалкам не працуе» і, адпаведна, эканамічнае адраджэнне краіны немагчымае. Акрамя таго, Шатцымаркакіс лічыць, што за час крызісу слова «Грэцыя» стала для бізнесменаў сінонімам карупцыі і фінансавых праблем. Парваць з такім іміджам без змены назвы краіны, быццам, таксама немагчыма. Дэпутат лічыць, што змена назвы дзяржавы павінна быць часткай буйной канстытуцыйнай рэформы. На яго думку, альтэрнатывай Эладзе можа быць прыход да ўлады ў Грэцыі папулісцкіх палітыкаў. Ён нават параўнаў цяперашнія грэчаскія ўлады з кабінетам Генрыха Брунінга (канцлер часоў Веймарскай рэспублікі, які з-за нерашучасці перадаў паўнамоцтвы Гітлеру). Застаецца дадаць, што акрамя Элады ў гісторыі была яшчэ адна назва Грэцыі. Доўгі час цяперашнія грэкі называлі сябе «рамейцамі» ў надзеі на рэстаўрацыю Візантыйскай імперыі, якую лічылі сваёй.

### ДЖАЗЭФІНА МОТА



Сябра правай Партыі нацыянальнага дзеяння (PAN) перамагла на партыйных праймерыз і стала афіцыйным кандыдатам на прэзідэнцкіх выбарах. За Джазэфіну, якая вядомая ў краіне як былы міністр аховы здароўя і абаронца сямейных каштоўнасцяў, аддалі галасы 60 працэнтаў удзельнікаў партыйных выбараў. Усе іншыя канкурэнты не набралі больш за 20 працэнтаў, нягледзячы на тое, што Феліпе Кальдэрон, цяперашні лідар PAN і прэзідэнт краіны, падтрымліваў аднаго з праціўнікаў Джазэфіны. Цяпер у барацьбе за прэзідэнцтва прадстаўніку PAN давядзецца памерацца сіламі з Энрыке Ньета (кандыдат ад Інстутыцыйна-рэвалюцыйнай партыі) і Андрэсам Абрадорам — кандыдатам левых. Раней адназначным фаварытам прызначаных на ліпень выбараў прэзідэнта лічыўся Ньета, аднак пасля выхаду на сцэну Джазэфіны сітуацыя выглядае больш складанай. Адным словам, спадарыня Мота мае шансы ўвайсці ў гісторыю як першая жанчына, якая зойме самую высокую пасаду ў Мексіцы.

### ГУРБАНГУЛЫ БЕРДЫМУХАМЕДАЎ

Аркадаг (афіцыйны тытул туркменскага прэзідэнта) на выбарах 12 лютага, рыхтуецца ў чарговы раз перамагчы. Гурбангулы асуджаны на перамогу, нягледзячы на тое, што яму супрацьстаяць аж 7 кандыдатаў. Аднак ніякай канкурэнцыі яны дзеючаму прэзідэнту не складаюць. Праграмы іншых прэтэндэнтаў уяўляюць сабой каскад маналогаў са словамі адданасці цяперашняму прэзідэнту. Аднак нельга казаць, што ніякіх рэформаў у Туркменіі не будзе. Журналісты адзначаюць, што Бердымухамедаў у апошні час пачаў актыўна навязваць туркменам белы колер замест зялёнага, які быў афіцыйным колерам у часы Туркменбашы. На партрэтах, што вісяць па ўсёй краіне, — прэзідэнт краіны ў белым. У белым выходзяць дыктары тэлебачання, спевакі, дзеці, якія сустракаюць прэзідэнта, вакол белыя кветкі і шары. Гэта звязваюць з тым, што Аркадаг па прафесіі стаматолаг і калісьці насіў белы халат. А некаторыя аматары чутак нават прагназуюць пасля 12 лютага змену сцяга краіны з зялёнага на белы.



▸ ТАЯМНІЦЫ ГІСТОРЫІ

# ЗАБОЙСТВА ВІЛЬГЕЛЬМА КУБЭ

## (ГІСТОРЫКА-ДАКУМЕНТАЛЬНАЕ ЭСЭ)

Анатоль ВАЛАХАНОВІЧ

◂ **Працяг. Пачатак у №№ 42–47, №1–5**

### Асабняк Віктара Янчэўскага

У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ад 7 чэрвеня 1891 года захавалася прашэнне Янчэўскага ў Мінскую гарадскую ўправу аб выдзяленні яму зямельнага ўчастка пад будаўніцтва двухпавярховага мураванага будынка па фасаду на 8 вакон, які ў гісторыю Беларусі ўвайшоў пад назвай асабняк Віктара Янчэўскага.

Віктар Восіпавіч Янчэўскі з'яўляўся прысяжным засядацелем Мінскага акруговага суда. Быў дэпутатам Першай Думы, уваходзіў у дэпутацкую камісію па выкананні дзяржаўных даходаў і расходаў. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года Янчэўскага абралі сябрам Мінскага камітэта грамадскай бяспекі, ён актыўна ўдзельнічаў у стварэнні міліцыі Пецярбургу, часта сустракаўся з М.В. Фрунзе. У 1919–1920-х гадах быў сябрам мінскага аддзела польска-беларускага таварыства. Ёсць меркаванне, што ён быў знішчаны ў ліку першых прадстаўнікоў мінскай інтэлігенцыі ў 1920-я гады.

У 1923 годзе ў гэтым будынку была адкрыта першая ашчадная каса горада Мінска, і Янка Купала стаў яе першым ганаровым укладчыкам, які на сваю ашчадную кніжку №1 паклаў ганарар за зборнік вершаў «Наследие».

Перад Вялікай Айчыннай вайной у асабняку Янчэўскага размяшчалася ваенная пракуратура, у якой следчым працаваў Іван Фінскі — даваенны сусед Осіпавай. Яго жонка Г.В. Фінская-Быкава была разведчыцай партызанскай брыгады «Дядя Коля» (камандзір брыгады Т.Р. Лапацін), і толькі блакада нямецкіх карнікаў каля возера Палік, што ў Бягомльскім раёне, перарвала сувязь Г.В. Фінскай-Быкавай у падрыхтоўцы да забойства Кубэ. Замест яе ў Мінск паслалі маладую разведчыцу — «партызанскую» жонку камандзіра атрада «Буря» Траян.

У 1941–1944 гадах у асабняку Янчэўскага на другім паверсе размяшчалася нямецкая палявая жандармерыя, упраўленне паліцыі аховы парадку ў Беларусі, на трэцім паверсе — генеральны камісарыят Беларусі. У правым крыле гэтага асабняка на трэцім паверсе знаходзіўся рабочы кабінет Кубэ і жылыя пакоі для яго сям'і.

А вось якая была планіроўка асабняка Янчэўскага ў 1943 годзе, калі там жыў В. Кубэ.

Столь першага, цокальнага, паверха была вышынёй 2,7 метра, другога — 3,8 метра, трэцяга паверха (дабудаванага) вышынёй 3,6 метра.

На першым паверсе знаходзілася кухня, пральня, прыбіральня, склад для дроў, кладоўка для прадуктаў харчавання, пакоі для прыслугі.



Асабняк Віктара Янчэўскага

На другім — спальня Кубэ, сталовая, ванная і тры дзіцячыя пакоі. Усе памяшканні прыбірала модна апранутая 18-гадовая бялявая пакаёўка «малая Галіна» — Галіна Вігал. Яе маці працавала машыністкай у нямецкай камендатуры, якая знаходзілася ў парку Максіма Горкага. Афіцыянткай на гэтым паверсе працавала Жаніта, дачка былога фабрыканта з Заходняй Беларусі, які пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР быў сасланы ў Сібір.

Параўнанне планаў другога паверха за 1891 і 1949 гады паказвае, што планіроўка паверха, дзе знаходзілася спальня Кубэ, не змянілася. Тры вакна спальні, якая знаходзілася ў вуглавым пакоі, выходзілі на вуліцу Энгельса, адно на вуліцу Кірава. Ложак Кубэ, які пакутаваў, як і Мазанік, на рэўматызм, стаяў каля вялікай галандскай печы (галанкі) каля вакна з боку вуліцы Кірава. Паводле сведчанняў Мазанік, на другім паверсе ўсе вокны з боку вуліцы Энгельса знутры на ноч зачыняліся жалезнымі стаўнямі.

На трэцім паверсе было шэсць пакояў і вялікі кабінет Кубэ. У ім партэра вылучала памяшканне з камінам і чатырма крэсламі для наведвальнікаў. Каля вакна — доўгі і шырокі стол на вітых ножках, з масіўнай тумбай. Каля сцяны — буфет, дзе быў вялікі выбар розных він аў, гарэлкі, каньяку, цыгараў, цыгарэтаў, срэбная чаша. Каля сцяны — шырокая сафа, засланая вялізным пледам: тут пасля абеду адпачываў В. Кубэ, побач стаяў журнальны столік. У музычным пакоі Аніта Кубэ вучыла сваіх дзяцей музыцы.

Па другі бок калідора знаходзілася гасцінная з доўгім сталом, крэсламі з чырвонага дрэва, масіўным разным буфетам для ўсяго посуду Кубэ. У пакоі для гасцей стаялі два ложкі. Тут былі два пакоі для ад'ютантаў Кубэ. Гэты паверх прыбірала Мазанік. Яна папрасіла сябе называць Галінай і, каб яе не блытаць з другой Галінай Вігал, Мазанік у асабняку ўсе называлі «вялікай Галінай» ці «фрау грос Галіна». Афіцыянткай і на гэтым паверсе была Жаніта.

Асабняк пры Кубэ ахоўвалі паліцэйскія, а не СД. Паліцыя насіла цёмна-зялёную форму, з-за якой паліцэйскіх празвалі «зялёнымі» падручнымі Гімлера. У Беларусі, паводле нямецкіх дакументальных крыніц, у паліцыі аховы парадку ў 1942 годзе было каля 11 тысяч чалавек: з іх немцаў каля 700. Астатнія, звыш 10 тысяч паліцэйскіх, набіраліся з мясцовых жыхароў і ваеннапалонных.

Асабняк кругласутачна ахоўвалі 12 паліцэйскіх. Яны маглі ў час дзяжурства пайсці з паста на базар за кветкамі, піць каву на кухні на цокальным паверсе, выходзіць з асабняка для праверкі знешняй аховы будынку.

Баючыся правакацый з боку СС, Кубэ хацеў замяніць ахову свайго асабняка і замест паліцэйскіх Герфа набраць сваю асабістую ахову з мясцовых фолькcдойчэ (немцы, якія пражывалі за межамі Германіі). Але начальнік упраўлення паліцыі бяспекі і СД па Беларусі Штраух, спасылаючыся на ўказанне Гімлера, забараніў Кубэ стварэць сваю асабістую ахову з фолькcдойчэ. У Мінску з 5 тысяч пастаяннага нямецкага гарнізона па стану на 1943 год было каля 2 тысяч 500 фолькcдойчэ. Большую частку мінскіх фолькcдойчэ складалі немцы, якія прыбылі з Паволжа. Ахову вялікага канцэнтрацыйнага лагера ў Трасцянцы акрамя ўкраінцаў нёс і батальён фолькcдойчэ. Астатнія фолькcдойчэ працавалі ў розных нямецкіх структурах. Ёсць звесткі, што асабістым перакладчыкам у Кубэ быў паволжскі немец Сямашка.

Перад вайной большая частка мінскіх немцаў пражывала ў раёне вуліцы Розы Люксембург (там былі лютэранскія могілкі і лютэранская кірха. Другім месцам кампактнага пражывання немцаў быў саўгас імя Гіршы Лекерта (тэрарыста, які страляў у Віленскага генерал-губернатара, за што і быў павешаны) ва ўрочышчы Дразды. Дарэчы, помнік Лекерту ў Малым садзе на плошчы Свабоды ў Мінску быў пастаўлены ў 1922 годзе на фундамент-пастамент помніка расійскаму імператару Аляксандру ІІ.

Пасля вызвалення Беларусі ў ліпені 1944 года ў асабняку Янчэўскага жыў генерал з НКУС СССР «Смерша» («Смерць шпіёнам») з сям'ёй, потым яго змяніла вельмі ўплывовая і ўваходзячая ў «магутную» тройку лідараў ЦК КП(б) Беларусі народны камісар асветы БССР Уралава.

У ліку іншых у будучым падлягаў зносу і моцны асабняк Янчэўскага, зямельны ўчастак якога ў пасляваенны час шмат разоў уразалі на патрэбу будаўніцтва гмаху ЦК КПБ. І толькі недахоп плошчаў пад жыллё ў моцна разбураным Мінску часова ратаваў асабняк ад зносу. У 1946 годзе ў ім былі вычышчаны і замураваны дымаходы печаў і падключана цэнтральнае паравое ацяпленне. Пральню пераабсталявалі пад кацельную для аўтаномнага падагрэву вады ў міні-басейне, які быў зроблены ў былым ванным пакоі на другім паверсе. Будаўнічыя работы ў гэтым квартале ў Мінску да 1947 года за плотам з калючага нержавеючага дроту выконвалі нямецкія ваеннапалонныя і савецкія вязні з ліку рускіх рэпатрыянтаў і савецкіх ваеннапалонных, якія вярнуліся з нямецкіх канцэнтрацыйных лагераў — салдаты і афіцэры Савецкай арміі.

У канцы 1949 года ў асабняку Янчэўскага правялі чарговы рамонт, і потым перадалі будынак літаратурнаму музею Янкі Купалы. Між іншым, вядомы мінскі архітэктар Воінаў да студзеня 1947 года распрацаваў эскізны праект аднапавярховага будынка літаратурнага музея Янкі Купалы, але ён па невядомых прычынах не быў рэалізаваны (у архіве захавалася праектная дакументацыя).

З-за невялікай колькасці экспанатаў (пераважная большасць асабістых рэчаў Янкі Купалы загінула ў Мінску 24 чэрвеня 1941 года, калі ў яго дом на вуліцы Садовай, 4, дзе ён жыў, трапіла бомба) і навуковых супрацоўнікаў, фонды музея Янкі Купалы і рабочыя кабінеты супрацоўнікаў музея размясцілі ў цокальным паверсе асабняка. Для экспазіцыі музея адвялі частку другога паверха. У самым вялікім пакоі першага паверха мясціліся працоўныя месцы дырэктара музея (нязменным дырэктарам музея да самай смерці была У.Ф. Луцэвіч — жонка Янкі Купалы) і навуковых супрацоўнікаў. У гэтым будынку дазволілі жыць бяздомнаму намесніку дырэктара музея з сям'ёй. На другім і трэцім паверхах размясціліся фінансава-эканамічныя службы багатага Саюза пісьменнікаў БССР, які аплачваў тэхнічнае ўтрыманне і рамонт будынка. У гэтым будынку музея пачалі збірацца беларускія пісьменнікі, якія да гэтага часу сустракаліся на кватэры Міхася Лынькова, на вуліцы Берсана, а потым у Доме ўраду.

У асабняку Янчэўскага пры замене пячнога ацяплення на цэнтральнае не было ўлічана тое, што масіўныя галандскія печы (у народзе празваныя «галанкамі») не толькі добра прасушвалі сцены асабняка ў 1,5 метра таўшчынёй, асабліва ў цокальным паверсе, але і забяспечвалі добрую вентыляцыю памяшканняў, чаго не маглі зрабіць устаноўленыя слабыя батарэі цэнтральнага ацяплення і малаэфектыўная сістэма ўстаноўленай прымусовай вентыляцыі. У цокальным паверсе музея Янкі Купалы з'явілася вялікая сырасць і грыбок цвілі, якія псавалі нешматлікія экспанаты, ацалелыя ў гады вайны. Супрацоўнікі музея пачалі часта хварэць, сярод іх рэзка павялічылася смяротнасць.

Літаратурны музей Янкі Купалы пераехаў у новы двухпавярховы будынак (архітэктары І. Валадзько, В. Волчак), па адрасу вуліца Янкі Купалы, 4, які месціўся ў нізіне на беразе ракі Свіслач, недалёка ад месца, дзе ў 1926–1941 гадах на вуліцы Садовай, 4 стаяў драўляны дом Янкі Купалы.

Пасля пераезду ў 1960 годзе літаратурнага музея Янкі Купалы, Саюз пісьменнікаў БССР запланаваў зрабіць прыбудову фасада будынка Янчэўскага з 8 акон да 11. Новы ганак выходзіў на паўночную і паўднёвую частку ўчастка. Усходнюю лесвіцу ганку не ўзводзілі з-за значнага памяншэння тэрыторыі ўчастка вакол асабняка. Тэрыторыя вакол асабняка з кожным годам памяншалася, як шагрэневая скура. Уваходныя дзверы прыбудовы сталі шырэйшымі. З боку ганку ў прыбудове размясцілася кінабудка, гардэроб і побач з ім таямнічы пакой з рэнтгенаўскай установай невядомага прызначэння. Сцены пакоя і дзверы былі абшыты свінцовымі лістамі, каб рэнтгенаўскія промні не шкодзілі здароўю людзей.

У далейшым планавалася зрабіць большую прыбудову да асабняка і з заходняга боку па вуліцы Маркса, але гэтыя планы не былі рэалізаваны, бо зноў надышоў час чарговага пашырэння будынку ЦК КП Беларусі за кошт зносу вельмі моцнага трохпавярховага будынка дзіцячага прытулку, асабнякоў Янчэўскага, Вярыга-Дарэўскай і іншых ацалелых у гады Вялікай Айчыннай вайны будынкаў у гэтым квартале горада Мінска.

У 1976 годзе моцна павялічаны «манапаліст» і апошні ўладальнік асабняка Саюз пісьменнікаў БССР перасяліўся ў новы вялікі будынак па вуліцы Фрунзе, 5 — Дом літаратара. Апусцелы быль асабняк Віктара Янчэўскага, помнік гісторыі і архітэктуры XIX стагоддзя, неўзабаве ўзарвалі. Вельмі моцны цокальны паверх асабняка ўзарваць не змаглі і засыпалі яго пяском.

На вызваленым месцы пабудавалі яшчэ адно крыло будынка ЦК КПБ. А на месцы размяшчэння асабняка Янчэўскага, насупраць кінатэатра «Піянер», разбілі газон.

У суседнім квартале, праз дарогу ад былога месца размяшчэння асабняка Янчэўскага, побач з кінатэатрам на даволі моцным фундаменце і рэдка рамантаваным доме Дамініка Юхневіча 1881 года пабудовы цяпер вісіць шыльда, якая нагадвае, што будынак — помнік архітэктуры XIX стагоддзя — ахоўваецца дзяржавай.

**Заканчэнне ў наступным нумары**

ТЭАТР

# ТАТЭМНЫЯ СКОКІ З ЯНКАМ КУПАЛАМ

Андрэй РАСІНСКІ

**«Янка Купала. Кругі раю» — новы спектакль Рэспубліканскага тэатру беларускай драматургіі.**

Янка Купала зноў актуальны. Замураваны ў школьных падручніках, выстаўлены на пастаменты, адсунуты ў музеі і сховішчы, пясняр прабівaецца да сучасных гледачоў, заклікае да волі і чалавечай годнасці.

Кліп «Ляпісаў», зняты паводле хрэстаматыйнага верша Купалы «Хто ты гэткі?», б'е рэкорды папулярнасці ў сецiве, непадцэнзурны ў роднай Беларусі і ўпадабаны расійскімі змагарамі за свабодныя выбары. А развагі Альгерда Бахарэвіча пра савецкага Янку Купалу выклікаюць нечуваны скандал і літаратурны мардабой з пралогам і эпілогам. Адны абураюцца, што «чапаюць класікаў», другія адстойваюць права размаўляць з класікамі правакацыйна-лёгкім слэнгам.

«Янка Купала. Кругі раю» — пастаноўка да юбілею паэта. Святлана Навуменка, якая ўвасобіла свой сцэнар на падмостках Рэспубліканскага тэатру беларускай драматургіі, ставіцца да песняра з пашанай, прынятай у сценах дзяржаўнай установы.




Фармальна, спектакль — паэтычна-дакументальная пастаноўка з музычнымі нумарамі, палітычна-сацыяльнымі алегорыямі і вольным мантажом сцэнаў. Музычныя нумары — самая прыемная нечаканка відовішча.

Музыка кампазітара Віталя Суддзіна — а гэта ягоная дэбютная праца — добра пасуе тэатральнаму твору. Яна не засланяе дзеяння і не ілюструе яго як карцінку; яна — самастойны драматургічны элемент. Паэт — у выкананні Дзяніса Паршына — спявае асобныя вершы, дэманструючы неблагія вакальныя дадзеныя. Паэзія Купалы, пакладзеная на музыку, толькі ўзмацняе свой заклік — гэта амаль гатовы эстрадны нумар, палкі відэакліп, перанесены на сцэну.

Аднак спектакль пазначаны як «гістарычная драма», і стваральнікі не рызыкнулі пайсці па шляху чыстага мюзікла. У гэтай драме жывуць чараўніцы, з'яўляюцца ўмоўныя фігуры і алегорыі.

Дзеянне пачынаецца нараджэннем паэта, калі над ягонай калыскай схіляюцца жаночыя постаці ў белым і прадракаюць яму славу песняра ды цяжкія выпрабаванні. Гэта відавочнае запазычанне з п'есы Уладзімера Караткевіча «Калыска чатырох чараўніц».

Надалей бацька паэта (актор Віктар Багушэвіч) спрабуе давесці сваё шляхецтва чыноўніку царскай адміністрацыі. Янка Купала чытае першыя вершы сябрам... І таксама сутыкаецца з пільнай увагай чыноўніцтва.

Вось паэт размаўляе з уласнай маці (занадта ідылічная сцэна для гістарычнага Янкі Купалы); бярэ шлюб (у ролі ксяндза — акцёр, які грае бацьку). Кастрычніцкі пераварот адзначаны камандзірамі са сцягамі; паэта вышturроўваць за сцэну чырвонай тканінай (бадай, удалы тэатральны жэст).

Жнейку са станцавана-агучанага Купалаўскага верша гвалтуюць чырвонаармейцы; Купалу армейцы спрабуюць звабіць савецкімі пасадамі і высокім заробкам.

Сумна вядомы крытык Лукаш Бэндэ (актор Кірыл Навіцкі — на сцэне таксама камандзір і ахоўнік) выступае з даносам на паэта. Купалу дапытваюць у АДПУ, а эпізод са спробай самазабойства паэта рассякаецца ўрыўкамі з «Бандароўны».

Купала едзе ў Маскву — на ўласную смерць; карнікі зачытваюць справаздачу аб няшчасным здарэнні. Пасля пратаколаў іншыя персанажы выступаюць з вершамі.

Нягледзячы на цэтлік «гістарычная драма», п'еса Навуменкі мае няўцямны жанравы статус.

Гэта не мюзікл, хаця атрымалася б някепска. Гэта не гістарычная драма, нягледзячы на агучаныя дакументальныя пратаколы; і гэта не драма ўвогуле. Аўтарка топіць драматургічныя канфлікты ў алегорыях, спрабуе размаўляць пра паэта паэтычнай мовай.

Але такі паэтычны позірк патрабуе, бадай, большай геніяльнасці, чым геніяльнасць паэта. Тэатр — сінтэтычнае відовішча, якое патрабуе ўзважанасці і выключнай прадуманасці ва ўсіх ягоных частках. І калі пісьменнік працуе толькі са словам, то рэжысёр мае справу і са словам, і з жэстам, і з выявай.

Любы спектакль грунтуецца на трох чынніках: драматургіі, рэжысуры і акцёрскай гульні.

Акцёрскія постаці ў гэтым спектаклі — не столькі жывыя людзі, колькі заяўленыя дэкларацыі. Рэжысура падпарадкаваная драматургіі; а драматургія — хібная.

І гэта не столькі правіна Навуменкі, колькі нярэдкая памылка беларускага тэатру. Гадоў 10 таму Віцебскі тэатр Беларускай драматургіі зладзіў пастаноўку, прысвечаную Якубу Коласу. І хаця спектакль быў зроблены лепей, мелася ўсё тое ж: разбэрсаная паэтычная мова пра паэта з няўцямным сцэнічным мантажам.

**Тэатр — сінтэтычнае відовішча, якое патрабуе ўзважанасці і выключнай прадуманасці ва ўсіх ягоных частках**

Асобна трэба сказаць пра алегорыі ў сённяшняй пастаноўцы.

Жэсты і спасылкі тут часцяком нейкія неадпаведныя. Вось Бандароўна абараняе перад князем сваю дзявочую годнасць. Пры гэтым актрыса кладзецца на стол (Пункцік у Рэспубліканскім тэатры на сталах, ці што? У «Сонечцы» таксама сталы-каталкі ездзілі). Гераіня цягнецца да князя, выгінаецца перад ім, падсоўвае ў твар цнатлівыя цыцкі; заява пра «не аддамся» з гэтымі жэстамі — самае тое!

А вось гэбіст-карнік кладзецца на стол перад Янкам Купалам(!). Карнік платаядна ўсміхаецца, баламутна дрыгае ножкамі, слугі масіруюць яго. Згвалтаванне жнейкі-Беларусі, зарыфмаванае з гвалтам з Купалы, толькі ўзмацняе разгубленую тэатральную арыентацыю.

«Янка Купала. Кругі раю» — гэта пашкамутаная эклектыка. Але ж і ў гэтай эклектыцы ёсць свае правілы, агульныя для абшараў нашага бескультур'я.

Спектакль пра забітага беларускага паэта — гэта сацыяльна-палітычны карнавал у межах дазволенага. Дазволена кпіць з бальшавікоў (яны ж цяпер не пры ўладзе) — што ж, смейцеся. Дазволена размаўляць на беларускае мове — размаўляйце ў сваім закутку і не высоўвайцеся.

Замест «антыімперыялістычных» непрыстойнасцяў «Тайнаў авальнага кабінету» — эратычна-безгустоўныя сцэны народнага паганства. Жнейка-Беларусь, якая аргіястычна танчыць на сцэне, выглядае ледзьве не стрыптызёркай начнога клубу (хай сабе апранутай). А стод Вялеса, што гмырыцца на сцэне на працягу ўсяго спектаклю, толькі ўзмацняе непатрэбныя асацыяцыі. А вянчанне пад стодам (і з ксяндзом) — гэта што?

Можна, канешне, ацаніць пачуццё гумару, калі карагод вакол драўлянага стода-фаласа выдаецца за «кругі раю», але спектакль Рэспубліканскага тэатру — сур'ёзны.

Папросту каша, што пануе ў адраджэнскіх галовах, згатаваная на рэштках паганства.

Абывацелі, заняраныя ў спажыванне, не любяць прарокаў за тое, што тыя клічуць зірнуць на неба, не абяцаючы за гэта чырвонцаў. Але ў яшчэ большай ступені яны не любяць герояў, якія спатыкаюцца, бо колішні стод не апраўдаў іхніх чаканняў. Беларуская Зносакі (эпізадычны персанаж у спектаклі) так упарта хаваліся і прыстасоўваліся, так шчыравалі, каб сцягнуць чарговы кавалачак, што забыліся пра ўласную душу.

Толькі ўсе мы — скарыстаемся мянушкай ад Альгерда Бахарэвіча — Каяны Лупакі.

Гэта мы чакалі, што нехта за нас дасць нам волю і скажа нашы словы.

Гэта мы штурхалі таго, хто зваліўся, замест таго, каб пацягнуць руку і зразумець.

Гэта мы блукалі ў «ружовым тумане», а калі Беларусь стала свабоднай, добраахвотна абралі рабства. І хто небяспеку бачыў — не знайшоў слоў, каб дагрукацца да народа, залюляны інтэлігенцкай пыхай высокага творцы. А хто заплюшчыў вочы на ярмо — б'ецца ў крыках ад недароду.

Сто гадоў таму ў Беларусі пачалася першая літаратурная палеміка. Вацлаў Ластоўскі ў артыкуле «Сплачвайце доўг» папракнуў айчынных пісьменнікаў і паэтаў за плаксівыя інтанацыі, за празмерную грамадзянскасць, што засланяла пекнату і метафізічныя вяршыні.

Янка Купала адказаў: наша песня плача таму, што жыццё такое — і яго трэба змяніць.

Я доўга лічыў, што Купала не мае рацыі. Што ўсе гэтыя «мужыкі» з ягоных вершаў састарэлі і не цікавыя гарадскому чытачу. Што завялікая ўвага да тагачасных грамадскіх чыннікаў — гэта пастка, якая дазволіла савецкай уладзе лічыць Купалу сваёй законнай маёмасцю, з цяжкімі наступствамі для беларускай літаратуры.

Але сёння Купала зноў загучаў. Загучалі ягоныя вершы і ягоныя заклікі — у кліпах, спрэчках, са сцэны.

Значыць, грамадскія праблемы, што калісьці былі, — пякучыя і сёння і патрабуюць неадкладнага вырашэння.

Толькі сітуацыя сёння іншая. Калі Купала пачынаў, не было дзяржавы Беларусь, была чужая імперыя. Сёння — дзяржава ёсць; толькі дзяржава з задаўленай душой, Каян Лупака — ад Каяна Лупакі; пустая абалонка — без Беларусі.

Раней шчыльна гучала жывая беларуская мова, яшчэ не дапушчаная ў палацы. Сёння яна кулакамі выгнаная з палацаў; яе карані падарваны, хаця яна яшчэ ліпіць у выкшталцоных гутарках.

Раней была нейкая надзея. Сёння мы завіслі над безданню.

Засяроджанасць на грамадска-матэрыяльным засланіла неба, і мы забылі Таго, каму абавязаныя быццём. Гэта ад Бога чалавек — паэт. І таму ў спектаклі «Янка Купала» — нягледзячы на нязграбнасць і дурату, нягледзячы на татэмныя скокі ля рампы — прабіваецца шэпт жывой душы. Шэпт вершаў Івана Дамінікавіча Луцэвіча, які ведаў, Каму абавязаны.

▸ ПРЭМІЯ

# ШЧОДРЫ ПАДАРУНАК НА ДЗЕНЬ ПІСЬМЕННІКА

## Хто з актуальных беларускіх літаратараў неўзабаве стане мільянерам? 7 лютага ў Мінску сталі вядомыя імёны шасці фіналістаў літаратурнай прэміі імя Ежы Гедройца

Алесь ГІНЗБУРГ



**Паводле апытання, якое напрыканцы 2011 года зладзіў Саюз беларускіх пісьменнікаў, 62% беларусаў увогуле не цікавяцца беларускай кнігай. Абсалютная большасць апытаных не змагла назваць ніводнага сучаснага беларускага пісьменніка.**

У той жа час поспехі сучасных беларускіх празаікаў, кнігі якіх былі перакладзеныя і выдадзеныя ў Польшчы цягам апошніх гадоў, сведчаць пра значную цікавасць польскіх чытачоў і крытыкаў да беларускай літаратуры. Так, у 2010 годзе ў шорт-ліст вроцлаўскай прэміі за найлепшую кнігу Сярэдняй Еўропы «Ангелус» трапіў раман Ігара Бабкова «Адам Клакоцкі і яго цені» (выдавецтва Oficyna21). Сёлета шорт-лістэркай той жа прэміі стала Наталка Бабіна з раманам «Рыбін горад» (выдавецтва Rebis). А кніга Святланы Алексіевіч «У вайны не жаночае аблічча» (выдавецтва Czarne) атрымала галоўную ўзнагароду. Як прызнаўся сябар журы «Ангелуса» Анджэй Завада, Беларусь стала адкрыццём прэміі «Ангелус» у 2011 годзе.

Калі беларускую кнігу адкрыюць для сябе беларусы?

Гэтым пытаннем задаліся заснавальнікі новай польска-беларускай літаратурнай прэміі, якую назвалі ў гонар культурнага дзеяча Ежы Гедройца, ураджэнца Мінску, шматгадовага рэдактара парыжскага часопіса «Культура». З 2012 года прэмія будзе ўручацца штогод за найлепшую кнігу прозы, выдадзеную на беларускай мове ў папяровым варыянце або ў фармаце электроннай кнігі. Сёлета на ўрачыстай цырымоніі, якая адбудзецца 3 сакавіка, у Міжнародны дзень пісьменніка, галоўны пераможца атрымае галоўны прыз — 105 мільёнаў беларускіх рублёў.

Заснавальнікі прэміі — СБП і ПЭН з беларускага боку, а таксама Амбасада Польшчы ў Беларусі і Польскі інстытут у Мінску. Злучае чатыры ініцыятывы пяты элемент — польска-беларускае прадпрыемства «Сомбелбанк», якое і прадставіць фінансавую падтрымку творцу-лідару. Таксама партнёры прэміі — польскія выдавецтвы і еўрапейскія дамы творчасці: «суцяшальнымі» прызамі для тых, хто не дацягне да ідэалу, стануць выхад кнігі ў Польшчы або творчы адпачынак.

Ініцыятарам заснавання такой узнагароды, як Літаратурная прэмія імя Ежы Гедройца, выступіў асабіста абасадар Польшчы Лешак Шарэпка. Ён прызнаўся, што пасля працы, пераапранаючыся ў швэдар ды джынсы, заізірае інкогніта ў беларускія кнігарні і шукае там цікавыя кніжныя навінкі. Працуючы ў Маскве і Кіеве, дыпламат быў заўсёднікам кніжных развалаў. Аб'ём беларускага кніжнага рынку яго непрыемна здзівіўе. Прэстыжная кніжная прэмія падштурхне развіццё беларускай кнігі і дапаможа перспектыўным аўтарам, перакананы спадар Шарэпка. «Галоўнае, каб прэмія мела традыцыю», — заявіў ён падчас прэсавай канферэнцыі ў Беларускім ПЭН-цэнтры. Стварыць традыцыю для Літаратурнай прэміі Гедройца — адна з асноўных задачаў арганізацый-партнёраў.

Першая з традыцый — прэмія — будзе ўручацца выключна за мастацкую прозу. «Прызнаемся: паэзія ў сучасным свеце займае маргінальнае становішча», — абвясціў спадар Шарэпка проста ў прысутнасці паэта Андрэя Хадановіча, які мужна вытрываў гэтую заяву. Другая запачаткаваная традыцыя — зважаць на літаратурную якасць выдаваных кніг, а не прыналежнасць да якіх-кольвек творчых саюзаў. Гэта падкрэсліў Барыс Пятровіч, які звярнуў увагу прэсы на наяўнасць сярод гедройцаўскіх намінантаў «чаргінцоўца» Андрэя Федарэнкі.

Наступныя традыцыі вызначыць час.

У марах арганізатараў — стотысячныя наклады кніг сучасных беларускіх празаікаў. А пачынаць трэба з малага, упэўненыя прамоўтары літаратуры.

### Прэмія Гедройца на Кніжным кірмашы

Найбліжэйшыя мерапрыемствы вакол 12 намінантаў прэміі Гедройца адбудуцца ў межах Мінскага кніжнага кірмашу («Белэкспа», вул. Янкі Купалы, 27):

10 лютага а 14:00 — аўтограф-сесія рамана Віктара Карамазава «Мастак і парабкі» (на стэндзе выдавецтва «Логвінаў»)

11 лютага а 15:00 — аўтограф-сесія кнігі Паўла Касцюкевіча «Зборная РБ па негалоўных відах спорту» (на стэндзе выдавецтва «Логвінаў»)

12 лютага 14:00–16:00 — аўтограф-сесія Андрэя Федарэнкі «Мяжа» (на стэндзе Міністэрства інфармацыі, секцыя «Літаратура і мастацтва»)

### Блог Кнігі

Кніга — галоўны герой Літаратурнай прэміі Гедройца. У блогу трывае спецыяльны праект — Людміла Рублеўская, Ганна Янкута, Павел Абрамовіч, Маргарыта Аляшкевіч, Марыя Мартысевіч выступаюць з рэцэнзіямі на кнігі лонг-ліста. Праект пакліканы адрадзіць увагу да літаратурнай крытыкі як да жанру і перанесці акцэнт з асобы пісьменніка на створаны ім тэкст. Рэцэнзіі, а таксама навіны Літаратурнай прэміі Гедройца — у спецыяльным блогу: http://bellitaward.blogspot.com/



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл.: (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 131

Падпісана да друку 10.02.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.